Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

Орган беларускага прамыслова-коопэрацыйнага саюзу паляўнічых

№ 11—12
1930
Лістапад—Сьнежань
Год выданьня IV



Каля прынады.

# Будуем дырыжабль . . . . Клім Варашылаў

## Першымі адгукнуліся наступныя таварышы,

якія ўнесьлі грошы на пабудову дырыжабля:

Лосеў П. 10 р., Гамолка А. 3 р., Ільіна М. 5 р., Міхеенка Ю. 1 р., Гулік 3 р., Крыштафовіч 1 р., Францкевіч В. 1 р., Цыганкоў С. 1 р., Сычэўскі І. 1 р., Марозаў І. С. 3 р. Гаўрыленка А. 1 р., Швыдрык 1 р., Мішын 1 р., Казякоўскі 1 р., Вераб'еў 2 р., Яўсееў А. 1 р., Міцічэў 3 р., Алескавец 1 р., Зацікаў 1 р., Пракапенка І. 1 р., Высоцкі С. 1 р.; Сідарэнка І. 1 р., Кілбас 1 руб., Сачыўка М. 1 р., Барташ І. 1 р., Бабчонак П. 3 р., Лагун Я. 1 р., Восіпаў М. 1 р., Волдзін К. 5 р., Буйко Б. 1 р., Яўціховіч 1 р., Жукоўскі П. 1 р., Асіпенка І. 3 р., Ахраменка 1 р., Атрохаў 1 р., Пятроў 1 р., Васілеўскі 1 р., Шадрын В. 1 р., Пятроўскі А. 3 р., Меланіч С. 2 р., Шмідт М. Ф. 5 р., Сільнікаў Р. Я. 3 р., Сапега 1 р., Бакаюўскі 1 р., Ляхавец А. 2 р., Паўлюкевіч Р. 1 р., Сушкевіч 2 р., Цярэшка 1 р., Гурлоўскі А. 1 р., Рыжы А. 1 р., Гарадзецкі 1 р., Канёў 2 р., Чупругін 1 р., Гаўрылаў Е., 1 р., Ермачэнка М. 1 р., Баканоў 1 р., Шутаў 1 р., Гладкоў А. 3 р., Ніколаеў 1 р., Пійль І. І. 2 р. Усяго 105 руб.

---

### Чырвоныя абозы.

На адозву ЦК УсеКП(б) паляўнічыя шмат якіх раёнаў адказалі арганізацыяй чырвоных абозаў з хлебам. У Гомельскім раёне паляўнічы Горавой абоз арганізаваў з 14 падвод. У Слуцкім арганізавана з 20 падвод, у Койданаўскім раёне паляўнічыя трыма абозамі здалі сто пудоў хлеба, у Віцебскім 14 падвод, у Чачэрскім некалькі чырвоных абозаў. За добрую працу паляўнічыя Чачэрскага раёну атрымалі падзяку ад РВК.

Трэба адзначыць, што ў гэтым годзе ўпяршыню паляўнічыя сталі арганізоўваць чырвоныя абозы з хлебам, ня ўлічваючы таго, што здана пры агульных хлебазагатоўках.

Будзем спадзявацца, што гэты пачын будзе падхоплен усёй нашай сыстэмай.

**С.**

### За „Пяцігодку ў чатыры гады".

Дамнікоўская ячэйка паляўнічых Полацкага раёну настанавіла ўсім членам ячэйкі падпісацца на пазыку „Пяцігодка ў чатыры гады" у суме 100 руб.

**Ясьвен.**

### Выконваем дагавор.

Рэчка Случ з сваімі прытокамі (Слуцкі раён)— найлепшае месца для паляваньня. Гэта рэчка багата вадаплаваючай дзічай. Не адна сотня крыжнаў і адкормленых гусей бясномацна зваліліся на багну балота пад стрэламі паляўнічых у гэтым годзе.

Здабытую дзічыну паляўнічыя здаюць у сталоўкі спажыўтаварыстваў. Паляўнічыя прэміруюцца дэфіцытнымі таварамі. Нашы паляўнічыя, якія здаюць мяса дзічы ў спажывецкую каапэрацыю, зразумелі ўсю важнасьць гэтай апэрацыі.

**Цімка.**

### Прэміраваньне за лепшую працу.

ЦП „Белкохотсаюза" прэміравана Чачэрскае райтаварыства водпускам трох стрэльбаў і 10 клгр. шроту за добрую працу па мабілізацыі сродкаў, барацьбе з драпежнікамі, арганізацыі чырвоных абозаў з хлебам і г. д.

Тураўскае т-ва атрымала ад „Белкохотсаюзу" за добрую работу па адстрэлу бадзячых сабак тры пары ботаў.

Менскае гарадзкое т-ва прэміравала рабочага заводу „Дрэвапрацоўшчык" т. Сазонава за зданыя ім 75 клгр. мяса зайцоў, качак, цецярукаў і інш. Выдана 5 клгр. шроту і 2 клгр. карцечы.

Віцебскае т-ва прэміравала паляўнічых Каляхова Сяргея і Рыжкова па 2 клгр. шроту і 500 гр. пораху за добрую барацьбу з браканьерамі.

**Р.**

---

### Пад апекай важнай асобы.

Хто ня ведае Ботвіча, працаўніка Гомельскай крамы паляўнічых?! Усе яго ведаюць, гэта важная асоба, а з важнай асобай трэба лічыцца.

На падставе гэтага прынцыпу, Ботвіч рашыў, што ён можа пакрываць злосных браканьераў, такіх самых злосных, як гр. Цукараў з х. Бабовіч, Гомельскага раёну. За гэтую самую дробязь Цукараў быў выключаны з саюзу паляўнічых.

Але што да гэтага Ботвічу? Ботвіч едзе на паляваньне і бярэ з сабой Цукрава, а Разыняеў ведае аб гэтым ды маўчыць. Колькі яны так дружылі аб гэтым нам невядома, але мы добра ведаем, што ўрэшце, яны былі злоўлены і вывешаны на чорную дошку гомельскімі паляўнічымі.

---

№ 11—12

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

1930 году.

Штомесячная часопісь „БЕЛКОХОТСОЮЗА“

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

На год . . . . . . 2 р.
„ 6 месяцаў . . . . 1 р. 20 к.
„ 3 месяцы . . . . 70 к.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Савецкая, 71, тэлефон 4-05.

## ЗЬМЕСТ



**Мабілізуем** паляўнічыя масы навакол задач трэцяга году пяцігодкі. **Выканаем** кантрольныя лічбы пушных нарыхтовак для паляўнічай коопэрацыі.

# ТРЭЦІ РАШАЮЧЫ.

Мы ўступілі ў трэці рашаючы год пяцігодкі. Важнейшым палітычным вынікам трэцяга году пяцігодкі зьяўляецца ніколі і нідзе яшчэ нячуваны размах будаўніцтва, размах творчай ініцыятывы і творчасьці рабочае клясы і працоўнага сялянства Савецкага Саюзу, якія канкрэтна выявіліся ў колькасным і якасным росьце сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Пад кіраўніцтвам партыі і яе ленінскага ЦК рабочая кляса Савецкага Саюзу дасягнула вялізарных посьпехаў у другім годзе пяцігодкі. Гэта не агульныя разважаньні. Гэта сьцьвярджаецца мовай фактаў і лічбаў. Толькі за дзесяць месяцаў 1929-30 гаспадарчага году агульная прадукцыя прамысловасьці ўзрасла на 27,5 процантаў супроць мінулага году, у тым ліку прадукцыя цяжкай прамысловасьці павялічыліся на 39,5 процантаў. Аб'ём капітальнага будаўніцтва за гэты час дасягнуў 2 мільярды 600 мільёнаў рублёў, плошча засеву збожжавых і іншых культур павялічылася на 8 мільёнаў 8 тысяч *га* і, нарэшце, мы ў другім годзе пяцігодкі ліквідавалі беспрацоўе па ўсяму Савецкаму Саюзу.

Аднак, побач з гэтым мы маем на паасобных вучастках будаўніцтва некаторыя прарывы.

Там, дзе ня была мабілізавана маса, там дзе была стаўка на самацёк, там дзе праводзілася праваапартуністычная практыка, там мы мелі прарывы.

У паляўнічае каапэрацыі, дзякуючы недацэнцы важнасьці работы сыстэмы, мы, у шмат якіх мясцох, маем прарывы ў выкананьні гадавых плянаў, а таксама і пляну апошняга ўдарнага кварталу. Па цэламу шэрагу раёнаў ня выканана дырэктыва партыі аб мабілізацыі сродкаў насельніцтва (паянакапленьне, рэалізацыя пазыкі—пяцігодка ў чатыры гады, задаткі ў лік тавараў і г. д.). На паасобных вучастках мы маем прарывы ў нарыхтоўках і галоўны прарыў—гэта невыкананьне амаль усёй сыстэмай кантрольных лічбаў па аднаўленьню паляўнічай гаспадаркі.

Ліквідаваўшы акруговыя зьвеньні сыстэмы, умацаваўшы раёны платнымі працаўнікамі, нам неабходна зараз мабілізаваць увагу паляўнічых мас на выкананьне задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі, а дасягнуць гэтага можна будзе пры ўмове, калі кіраўніцтва нізавых зьвеньняў—першую чаргу, а таксама і паляўнічая маса добра ўсьвядоміць, што і паляўнічая гаспадарка і ўся сыстэма паляўнічай каапэрацыі ёсьць неразлучная частка і важны вучастак пяцігодкі.

У трэцім рашаючым годзе пяцігодкі адпускаецца больш 6 сот тысяч рублёў на будаўніцтва трусятнікаў і разьвядзеньне зьвяроў у няволі. З гэтае лічбы 400 тысяч рублёў павінна даць сама сыстэма. Паянакапленьнямі, цэлявымі ўзносамі і авансамі ў лік тавараў павінна быць сабрана 700 тысяч рублёў. За 1931 год павінна быць каапэравана ня менш 8 тысяч членаў, з якіх ня менш 20 процантаў беднякоў. Акрамя гэтых лічбаў прадугледжана арганізацыя некалькіх буйных трусаводных калгасаў.

Лічбы, як відаць, патрабуюць напружанай работы і мабілізацыі сілы і ўвагі паляўнічых мас для пасьпяховага іх выкананьня.

Разгорнутым сацыялістычным спаборніцтвам і ўдарніцтвам, уздымам творчай актыўнасьці і ініцыятывы мас, бальшавіцкім кіраўніцтвам гэтай актыўнасьцю мы павінны забясьпечыць выкананьне плянаў і заданьняў рашаючага году пяцігодкі.

Асноўнаю ўмовай пасьпяховага ўладаньня бальшавіцкімі тэмпамі зьяўляецца ўмацненьне рашучай барацьбы з правай небясьпекай, як галоўнай на даным этапе і з „левымі“ загібамі.

Заданьні трэцяга году пяцігодкі, кантрольныя лічбы раёнаў нізавых ячэек павінны быць шырока абгавораны на сходах паляўнічых, павінны быць даведзены да кожнага паляўнічага. Мабілізаваўшы масу, забясьпечым пасьпяховасьць выкананьня гэтых лічбаў і заданьняў.

# Быць у першых шэрагах баявых дружын.

## Мабілізаваць сродкі.

Наступаючы 1931 г. зьяўляецца рашучым годам у справе правядзеньня ў жыцьцё лёзунгу „Пяцігодка ў чатыры гады“. Прыняты сьнежаньскім пленумам ЦК і ЦКК УсеКП(б) народна-гаспадарчы плян на 1931 г. патрабуе ад кожнага рабочага і селяніна-бедняка і серадняка—ад кожнай установы і прадпрыемства ці грамадзкай арганізацыі максымум энэргіі і працы. Патрабуецца максымальная эканомія сродкаў, мабілізацыя ўсіх унутраных рэсурсаў краіны.

Галоўнае, што нам трэба зрабіць у паляўнічай каапэрацыі—гэта зьніжэньне накладных выдаткаў: перавозка тавараў, утрыманьне штату. Мы павінны гэта вывучыць і абмеркаваць, каб зьнізіць выдаткі. Да гэтага часу ня было сувязі між райтаварыствамі, пераплачвалі па перавозцы тавараў. Зараз трэба райтаварыствам увязацца, дагаварыцца між сабой і дабіцца зьніжэньня. Можна, напрыклад, абслугоўваць аднэй падводай два раёны, мець адну штатную асобу на два т-вы і г. д.

Трэба, як хутчэй, рэалізаваць тавары, каб яны не залежваліся на складах, а дзе залежваюцца—перадаваць у іншыя т-вы ці ў Менск, папярэдне дагаварыўшыся аб тэтым; прадаць, дзе ёсьць лішні інвэнтар, матар'ял і інш.; своечасова здаваць пушніну і мехсыравіну з тым, каб павялічыць зварот сродкаў.

Шмат каштоўнасьцяй у нас гіне—сьвінец і сьвінцовы лом—як сярод паляўнічых, так і ўсяго насельніцтва, збор якога дасьць магчымасьць паляўнічай каапэрацыі вырабіць больш шроту. Не павінна заваляцца ніводнае скуркі зьвера ні ў паляўнічага, ні ў таварыстве.

## Як выконваюцца заданьні.

На квартал—кастрычнік-сьнежань кожнае т-ва мае заданьне па мабілізацыі сродкаў, гадоўлі трусоў, пушных нарыхтоўках, барацьбе з драпежнікамі і браканьерамі і інш.

Некаторыя т-вы па ўсіх пытаньнях маюць шэраг памылак у сваёй рабоце, а некаторыя заданьні зусім ня выконвалі.

У сувязі з правядзеньнем новай шкалы паявых узносаў у некаторых кіраўнікоў на мясцох і ў паляўнічых зьявіліся яўна кулацкія настроі, напрыклад: „Вось, добра, хоць уся дробязь і недарэчнасьць адпадзе з саюзу паляўнічых“.

Такім чынам гэтыя кулацкія „агітпропы“ новую шкалу ператвараюць у перашкоду для ўступленьня ў саюз маламоцных паляўнічых. Тым часам шкала дае шмат ільгот маламоцным паляўнічым—рабочым, беднаце. Пад гэты настрой падлаюцца асобныя кіраўнікі райт-ваў (Бярэзіна). У некаторых т-вах не здаволены і напалоханы тым, што самыя моцныя паляўнічыя адсыпаюцца і кажуць, што каапэрацыя загіне бяз іх.

Паляўнічая маса павінна складацца з рабочых, калгасьнікаў, беднаты, батракоў, сераднякоў і іншых працоўных гораду; бяз усякай літасьці выкідаючы нягодны элемэнт.

Некаторыя т-вы баяліся браць мэтавы збор, лічачы, што паляўнічыя тады ня пойдуць на перарэгістрацыю, падрываючы тым самым работу каапэрацыі. Зусім кепска абстаіць справа ў тых раёнах, якія прымацованы да іншых раёнаў. Мабілізацыя сродкаў у некаторых раёнах таксама праводзіцца кепска; прычынай гэтаму ва ўсіх раёнах зьяўляецца тое, што рэгістрацыю не ўтвараюць па ячэйкам, а толькі ў райцэнтрах.

Па дваццаці раёнах плян зьнішчэньня ваўкоў выканан, дзе-ні-дзе перавыканан, а астатнія нічога не зрабілі.

Лепш справа абстаіць з гадоўляй трусоў; раённыя т-вы раскачаліся і зацікавіліся гэтай справай. Але ёсьць і такія, што ня хочуць займацца гэтым і выдумліваюць усякія прычыны і спосабы, каб адкруціцца ад трусагадоўлі.

## Пушныя нарыхтоўкі.

Яны зараз у разгары. **Пушніна займае вялікае месца ў экспарце і павінна быць своечасова нарыхтована і здана дзяржаве.** Між тым за ўдарны квартал па Беларусі плян выканан у нязначнай колькасьці. Мясцамі пушніна ляжыць у раёнах. Шмат пушніны ляжыць у паляўнічых—**гэты прарыў трэба ліквідаваць.**

Затрымка пушніны ня толькі дрэнна адбіваецца на бюджэце райтаварыства, але і затрымлівае імпорт. Кожны паляўнічы павінен здаваць пушніну своечасова, а праўленьням т-ваў павесьці адпаведную работу ў гэтым напрамку і адпускаць боепрылады толькі здатчыкам пушніны, а лепшых з іх прэміраваць. Насьценгазэты, сходы паляўнічых павінны дапамагчы ў гэтым—арганізоўваць калектыўную здачу пушніны праз ячэйкі, групы паляўнічых, парадкам соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Сілы краіны накіраваны на тое, каб правесьці як мага хутчэй плян сацыялістычнага будаўніцтва і кожны павінен дапамагчы з нас—паляўнічых—дабіцца пасьпяховага выкананьня гэтага пляна.

## Коопэраваньне беднаты.

Горш за ўсё з справай коопэраваньня беднаты. Няма ніводнага раёну, выканаўшага плян па коопэраваньню. На мясцох у некаторых райт-вах коопэраваньне зусім не праводзілася—там адбаярваюцца тым, нібы ў іх раёне некага коопэраваць, няма беднаты—і гэта ў багатых сродкамі раёнах (Віцебск, Ворша, Койданава і інш.). Такія адносіны да сацыяльнага складу не дапушчальны, **гэта работа правых апартуністых, трэба біцца па іх і выкарчоўваць.**

**Сільнікаў.**

# Як працавала навуковая паляўнічая экспэдыцыя.

Экспэдыцыя выехала на працу 25 мая гэтага году. Задачы экспэдыцыі—вывучэньне фауны Палесься—гэта часткі Гомельскай, Магілеўскай, Бабруйскай і Мазырскай акруг. Экспэдыцыя працавала 4 месяцы: з 25 мая па 1 кастрычніка. За гэты час абсьледвана 16 лясьніцтваў паўднёвай часткі Палесься.

Усе гэтыя лясьніцтвы раскіданы на вялікім абшары, што служыла перашкодай у працы экспэдыцыі. Прыходзілася рабіць вялікія пераезды, траціць на іх шмат грошай, а сродкі экспэдыцыі былі маленькія. У такіх выпадках экспэдыцыі дапамагалі калгасы. Калгасы, галоўным чынам, дапамаглі падводамі пры пераездах за параўнаўча невялікую плату.

Праца экспэдыцыі заключалася ў наступным: па прыбыцьці ў якое-небудзь лясьніцтва знаёміліся з лясьніцтвам, здымалі копію пляну лесанасаджэньняў з падзяленьнем лесу на пароды, рабілі выпіскі з лесаупарадкоўчай справаздачы адносна клімату, глебы, рэльефу і разьмеркаваньня лясной плошчы па пародах, складу, тыпу лесу з апісаньнем. Адначасова з гэтым утваралі допыт лясной варты аб становішчы лясной фауны і заносілі усё гэта ў асобныя анкеты, а потым правяралі гэта шляхам штодзённай экскурсіі ў лес. Пасьля праверкі усё гэта заносілася на карты і ў анкету. Часта экспэдыцыі прыходзілася зьвяртацца да паляўнічых, але апошнія не уразумелі задач экспэдыцыі і часта ня толькі не дапамагалі экспэдыцыі, але ўтайвалі месцазнахаджэньне нор лісоў і тых ці іншых зьвяроў. Так было з адным паляўнічым у Бабіцкім лясьніцтве. Пры звароце да былога старшыні Лоеўскага т-ва паляўнічых, каб ён даў зьвесткі, колькі пушніны нарыхтавана ў раёне за 1929-30 год, апошні такіх зьвестак ня даў і прышлося зьвярнуцца да Гомельскага акртаварыства. У гэтым годзе была абсьледвана бяднейшая частка паляўнічай фаунай Палесься. Тут ня было зусім заўважана рэдкіх прадстаўнікоў паляўнічай фауны, як, напрыклад: мядзьведзь, лось і інш.

Пры падліку дзічы прыходзілася наглядаць хворыя зьявішчы паляўнічай гаспадаркі, гэта разрываньне лісіных і барсучых нор, малая колькасьць вавёркі; апошняй у некаторых дачах зусім не знайшлося.

Падрабязна аб становішчы паляўнічай фауны ў абсьледваных раёнах павінен даць весткі кіраўнік экспэдыцыі праф. А. В. Фядзюшын.

Пра самую экспэдыцыю трэба сказаць, што яна ня зусім удала была з'арганізавана. У пачатку працавала 5 асоб, а пад канец засталося тры, з якіх два займаліся вучотам, так што прыходзілася траціць мала часу на апошнія лясьніцтвы для дэталёвага абсьледваньня. Ня было закладзена ніводнай пробнай плошчы для падліку дзічы на даным вучастку, каб атрымаць уяўленьне да агульнай плошчы лясьніцтва.

Не выбіраліся на месцы вучасткі пад заказьнікі, а на мясцох відней, якія вучасткі больш падыходзяць пад паляўнічыя заказьнікі і якіх можна чакаць вынікаў. А вучасткі былі і вельмі добрыя. Адзін удзельнік экспэдыцыі узьнімаў пытаньне, каб хадайнічаць аб адчыненьні заказьніка ў адным месцы, але кіраўнік экспэдыцыі палічыў, што гэтага рабіць ня трэба ў час палявой работы.

Мне здаецца, што экспэдыцыя наогул выехала вельмі позна. Трэба было-б выехаць у канцы красавіка і працаваць да пачатку верасьня. У верасьні ўжо цяжка выявіць, колькі было вывадкаў, бо ўсе адзнакі да гэтага часу зьніклі. Напрыклад, каля лісіных нор, дзе былі вывадкі, нічога не засталося. Прыходзілася абмяжоўвацца допытам лясной варты.

Ня гледзячы не недахопы ў рабоце экспэдыцыі, апошняя дала шмат карысьці паляўнічай гаспадарцы. Трэба толькі пажадаць, каб была магчымасьць вывучыць ня толькі Палесьсе, але і ўсю Беларусь, каб гэтым даць магчымасьць будаваць паляўнічую гаспадарку плянава.

**П. Сямашка.**

**Паляўнічы! „Будзь чытачом часопісі „Паляўнічы Беларусі“ і на 1931 год. Аднаўляй падпіску.**



Марскі заяц.



Выцягвае з вады марскога заяца.

# Амэрыка

## або дзень на Пушкінскай

Лёзунг „дагнаць і перагнаць“, выкінуты камуністычнай партыяй некалькі год назад, яшчэ нядаўна гучэў як нешта далёкае і няскорае. Вельмі ўжо непаражонай здавалася наша тэхнічная адсталасьць. Так было, але вось...

Была найлепшая, сонечная жнівеньская раніца, калі наш „Форд“, лавіруючы сярод бесталковых вуліц Масквы, выбраўся ўрэшце за Крэстоўскую заставу і, хутка перасекшы новую лінію электрычнай чыгункі Масква—Пушкіна, плаўна панёсься па найлепшай, месцамі гудраніраванай яраслаўскай шашы; праз гадзіну—паўтары, мінаючы некалькі пасёлкаў, павярнулі на занава выбрукаваную дарогу, якая вядзе да зоофэрмы Дзяржгандлю. Тут ужо не адчуваецца подыху двухмільённага гораду; прыгожыя, у асеньнім золаце палі і пералескі, а месцамі хмурая елка шчыльна прысунуліся да палатна чыгункі. Вунь уперадзе, нізка сьцелячыся над зямлёю, перамахнула дарогу вавёрка; часта пералятаюць блукаючыя сойкі...



Мал. 1.

Але вось і зоофэрма, першае яе аддзяленьне. Высокія моцныя вароты, суцэльная, празрыстая сетка, скрозь якую відаць водная плошча вялізарнага става з нейкімі арыгінальнымі будачкамі, раскіданымі паверх вады. Гэта, як потым аказалася, андатравыя хаткі.

Мы пачалі агляд фэрмы з трусятніка. Тут, ва ўзорна пабудаваных памяшканьнях і абгароджаных сеткаю выгулах утрымліваюцца амаль усе існуючыя пароды трусоў. Гэта пакуль толькі племянны і вопытны трусятнік. Некаторыя пароды ўладаюць вельмі прыгожым мехам. Асабліва помняцца мне кенгуровыя трусы, вывезеныя з Францыі з найлепшым, шчыльным прыгожым мехам. На жаль, гэта вельмі дарагая парода пакуль яшчэ, відаць, не ўяўляе сабою замацаванай „чыстай лініі“ і нярэдка дае па афарбоўцы і якасьці меха патомства, якое ўхіляецца ад гэтай лініі. Гадавальнік ахоўваецца нямецкімі аўчаркамі.

Пры трусятніку існуе ўзорна-пастаўленая вэтэрынарная лябораторыя, сенавал, прадуктовы склад і іншыя службы. Усё гэта знаходзіцца ў найлепшай лясістай мясцовасьці, у парку былога маёнтку. Бліжэй да дарогі, як ужо ўспаміналася, разьмешчаны андатравы стаў, падзелены насыпнай дарогай на два: у 8 і 14 гектараў (мал. № 1). Два гады таму назад было прывезена з Амэрыкі 500 штук андатр (або мускусных крыс)—гэтых прыгожых пушыстых грызуноў, якія адносяцца к падсямейству палёвак (Microtinae). З іх каля 300 штук было паселена на Салавецкіх выспах (малюнак андатры № 2) і ў Тураханскай тундры ва ўмовах поўнай волі. Частка-ж утрымліваецца ў апісаным ставе. Жывёлы часткова жывуць на волі, проста ў абгароджаных праточных прудах (фото № 2), часткова-ж утрымліваюцца ў асобных драўляных аснашчаных бляхаю і сеткаю паўадчыненых зьверху хатках з унутранай ваннай, гняздом і маленькім выгулам. Тут мы бачылі самак з маладымі, якіх бывае да 6 штук зараз. Андатры, якія жывуць у возеры, пасяляюцца або ў норках, выкапваемых імі ў берагох, або карыстаюцца пастаўленымі на плывучыя плыткі асобнымі дравянымі скрынкамі, абкладзенымі зьверху асакою і карнявішчамі другіх вадзяных расьлін. У траве на беразе става відаць былі ўмятыя грызунамі сьцежкі. У другіх мясцох трава ў вадзе была скошана іх вострымі разцамі, што нагадвала работу нашых вадзяных пацукоў (Arvicola



Мал. 2. Андатра.

# пад Масквой

## зоофэрме Дзяржгандлю СССР

amphibius). У андатр, якія жывуць на волі, у ставе аказаліся сур'ёзныя ворагі, гэта—кошкі і асабліва нашы малыя канюкі (Butco vulpinus), спраўна ловячыя гэтых грызуноў. Прышлося павесьці спэцыяльную барацьбу з гэтымі драпежнікамі, завесьці нават пугача (філіна), з дапамогаю якога за лета было забіта 15 штук (!) дарослых канюкоў. З мэтай прыманкі выстаўляліся таксама асобныя мышыныя садкі, каля якіх білі з засады гэтых драпежнікаў. Бязумоўна, што на колькасьць канюкоў мела ўплыў лясістая мясцовасьць. Наступнае галоўнае аддзяленьне зоофэрмы разьмешчана ў 10 мінутах язды ад трусятніка, прычым тут пабудовы гэдавальніка раскіданы паабапал шашы. Ужо пад'яжджаючы да гэтай часткі фэрмы здалёк даносіцца ясна ўлавімы спэцыфічны лісіны пах. Уехаўшы ў вароты, даводзіцца прабірацца сярод заваленага будаўнічым матэрыялам двара да памяшканьня канторы зоофэрмы. Дзяжурны міліцыянэр яшчэ ў двары правярае нашы прапускі. Атрымаўшы дазволы на агляд, разам з загадчыкам навуковай часткі гадавальніка тав. Шахміянцам, мы накіроўваемся раней за ўсё ў сабалятнік. Тут у прыгожых, у выглядзе шасьцігранных прызм, драцяных вальерах, разьмешчаных правільнымі радамі ўсьцяж лясной дарогі, утрымліваецца каля... 200 штук лепшых баргузінскіх собаляў. У кожнай вальеры-клетцы зьмяшчаецца на слупку драўняная скрынка-хатка з нахільна апушчанымі сходкамі. Тут зьмяшчаецца гняздо собаля. У сярэдзіне вальеры абавязкова пакідаецца некалькі буйных дрэў, зручных для лазаньня собаляў. Крона дрэва выпушчана праз сятчатую столю вальеры. Некаторыя з бачаных собалёў амаль зусім ручныя, хаця, можа быць, і не настолькі, як тыя, што я бачыў у Маскоўскім зоопарку. Ва ўсякім выпадку, праблема, якая раней здавалася вельмі цяжкой для вырашэньня,—гэта праблема штучнага разьвядзеньня ў няволі гэтага каштоўнага зьвера,—зараз дзякуючы стараньням рускіх зьвераводаў, можа лічыцца вырашанай у станоўчым сэнсе. Вялікая заслуга ў гэтай



Мал. 3. Апасум.

справе ляжыць на загадчыку навуковай часткай Маскоўскага зоопарку тав. П. А. Мантэйфэле і яго маладых супрацоўнікаў, якія ўпяршыню ўстанавілі назіраньнямі сапраўдныя тэрміны цечкі ў собаля і ў куніцы і атрымалі таксама добры прыплод у няволі ад іх. Сакрэт няўдач у разьвядзеньні собаля заключаецца ў тым, што тэрмінам цечкі і спарваньня ў іх лічылі канец зімы і пачатак вясны, тады, як на вопыце аказалася, што цечка ў гэтых відаў бывае ўлетку, у ліпені! У гэтым-жа аддзяленьні мы бачылі гарнастаяў, куніц і дзьве харзы—буйныя доўгашэрстныя куніцы, вельмі кепска яшчэ вывучаны від. Пры ўваходзе ў сабалятнік разьмешчана кухня, абсталяваная мясарубкамі, начыньнем і іншым неабходным для прыгатаваньня харчоў для ўтрымліваемых зьвяроў. Кармілі собаляў канінай, яйкамі, рыбай і малаком.



Мал. 4. Віскаша.

Тутака-ж, побач, знаходзіцца гадавальнік, дзе ўтрымліваюцца вельмі многія віды розных пушных зьвяроў, з якіх памянем злучана-амэрыканскіх апасумаў, цікавейшых сумчатых пацукоў (малюнак 3), якія ўтрымліваюцца ў драўляных скрынках—з гнёздамі ўнутры і з пад'ёмнымі крышкамі, дазваляючымі бачыць зьвяркоў. Самкі з дзецьмі злобна расчынялі вышчараныя рты і глуха шыпелі, не даючы пагладзіць сябе. Тут-жа, радам, у клетках, утрымліваліся тоўстыя віскашы (Visca cia trichodactyla) таксама амэрыканскія грызуны з прыгожым мехам (мал. 4). Далей можна было

бачыць вядомых ванючак-скунсаў—невялічкіх амэрыканскіх драпежнікаў з прыгожым бліскучым, чорным мехам, шырока распаўсюджаным сярод жаночых мехавых убораў. Іх тут было ня менш 160 штук.

Утрымліваемым у няволі скунсам звычайна папярэдне робяць асобную апэрацыю—выдаленьне спэцыяльных залоз, разьмешчаных пад карнявой часткай хваста. Гэтыя залозы вылучаюць невынасіма сьмярдзючы сакрэт. Выпускаючы гэтую моцна сьмярдзючую вадкасьць, зьвяркі тым самым абараняюць сябе ад прасьледвацеляў, у тым ліку і ад сабак, якія адмаўляюцца прасьледваць скунса*).



Фото № 5. Агульны від на лісіны загон.

Мне апавядалі, што вэтэрынарны ўрач, які рабіў апэрацыю выдаленьня гэтых зьмярдзючых залоз скунса, ня гледзячы на рад прымаемых ім мер перасьцярогі пры апэрацыі ў выглядзе перамены вопраткі, стараннага мыцьця рук пасьля апэрацыі і інш.. ніколі не адчуваў цеснаты ў вагоне, зьвяртаючыся ў Маскву, бо суседзі вельмі пасьпешна прымушаны былі перасаджвацца ад яго на іншыя лаўкі, або пераходзіць у другія аддзяленьні...

Побач са скунсамі зьмяшчаліся енотавідныя сабакі, далей норкі (каля 150 штук) і г. д. Маю ўвагу асабліва прыцягнуў да сябе цікавейшы буйны, паўднёва-амэрыканскі грызун нутрыя, жывёла падобная да бабра, прыстасаваная да жыцьця ў вадзе. У невялікім ставе іх было каля 50 штук. Частка з іх грэлася на сонцы, забраўшыся для гэтага на плывучыя па вадзе дошкі, частка хутка плавала і нырала. Па словах адміністрацыі гадавальніка нутрыя можа заставацца пад вадой вельмі доўга: нібы да 18 і нават 22 мінут (?). (Андатра паказала здольнасьць быць пад вадой 7 мінут). Кормяць нутрыю караньплодамі. Мех нутрыі аліўкава-шэры, вядомы ў мехавым гандлі пад назвай „абезьянего“.

Але самая каштоўная і цікавая ў практычным сэнсе частка гадавальніка, гэта—лісіны загон, разьмешчаны з другага боку дарогі.

Першае, што робіць уплыў на аглядаючага гэтую частку зоофэрмы, гэта — вялізарнасьць прадпрыемства. Суцэльнымі, уходзячымі ў далячыню радамі выцягнулася... 900 асобных сетчатых вальер. Кожная вызначаная прынамсі для пары жывёлін. Тут разьмешчаны ня больш і ня менш як **1.200** першакласных, срабрыста-чорных амэрыканскіх лісіц і каля **150** штук мэтысаў (помесі з эўрапэйскай чырвонай лісіцай). Па колькасьці лісіц гэта другая ў сьвеце зоофэрма і першая ў Эўропе (фото № 5).

Вальеры разьмешчаны на адкрытым месцы і пазбаўлены цені. Глеба ў іх дрэнітована, пясчаная, сьценкі вальер пабудаваны па навейшаму ўзору—нахільна ўнутр, што пазбаўляе жывёлін магчымасьці лазаць па сьценках. Кожная вальера задаволена памяшканьнем, — хаткай, унутры якой знаходзіцца гняздо. На будках ёсьць свой нумар, даваляючы весьці назіраньні і адзначаць іх пад гэтым-жа нумарам у асобных назіральных часопісах. Як і ва ўсіх узорных гадавальніках, тут утвараюцца назіраньні над паводзінамі жывёлы з асобных зачыненых вышак (гл. мал. 5), устаноўленых у розных канцах гадавальніка. З кожнай вышкі можна бачыць вызначаны лік вальер. Цэлы штат супрацоўнікаў і практыкантаў-студэнтаў працуе па доглядзе за жывёламі Асобная кухня гатуе спажыўна складзеныя кармы для лісіц. У меню іх абедаў уваходзіла молатае мяса, ячная каша, расьцёртая камбала (рыба), вараныя караньплоды, малако і інш. спажыўныя прадукты. Харчы гатуюцца ў найлепшых гігіенічных абставінах, якім могуць пазайздросьціць шмат якія нашы сталоўкі, і разносяцца ў вызначаныя гадзіны па клетках. Пры ўваходзе ў гадавальнік разьмешчаны ізалятар для захварэўшых лісіц. Захворваньняў апроч глістных не назіралася. Некаторым жывёлінам пры нас мазалі ўнутранасьць вуха дэзінфэкуючымі масламі супроць кляшчэй. Лепшым паказальнікам добрага дагляду зьяўляецца той рэкордны прыплод, які атрымлівае Пушкінская зоофэрма—а менавіта 125 процантны прыплод, што азначае 2¼ маладых на пару старых. У гэтай адносіне Маскоўская зоофэрма заняла першае ў сьвеце месца. Нямецкія спэцыялістыя, якія наведалі зоофэрму, павінны былі прызнаць гэта, як і тое самае, што падобных маштабаў прадпрыемства пад сілу толькі дзяржаве, якая плянава вядзе гаспадарку, а не прыватнаму капіталу.

Такім чынам дзяржгандлеўская зоофэрма ў Пушкіно праз два гады свайго існаваньня (з 1928 году) змагла ня толькі перамагчы шматлікія цяжкасьці арганізацыйнага парадку, але і настолькі ўзорна паставіла справу, што заняла першае месца ў сьвеце па колькасьці развадзімых відаў жывёлін, першае месца ў сьвеце па проценту прыплоду ў лісіц, другое месца ў сьвеце і першае ў Эўропе па ліку ўтрымліваемых лісіц.

Гэта лепшае наша дасягненьне і лепшы паказчык таго, што мы сапраўды можам „дагнаць і перагнаць“.

**А. Ф.**

---

*) Разам з тым скунс уладае папярэджваючай афарбоўкай з рэзкага злучэньня белага і чорнага колера, што робіць гэтага зьвярка лёгка заўважным і тым самым даваляе сходзіць з яго сьцежкі ворагам адразу яго пазнаючым.

# Палеская экспэдыцыя Беларускай Акадэміі Навук па дасьледваньню фауны.

У сувязі з вызначанымі вялізарнымі мерапрыемствамі мэліорацыйнага характару на абшары Палесься, якія павінны будуць пакладзены ў аснову сацыялістычнай рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі гэтае часткі БССР, катэдраю зоолёгіі БАН, па даручэньню Палесмэліозему Беларусі ў бягучым годзе распачата праца па дасьледваньню фауны на паказанай тэрыторыі. Мэты паказаных досьледаў вынікаюць з наступнага. Выходзячы з таго, што сьвет жывёл у кожнай краіне зьяўляецца аднэй з важных, г. зв. прыродных вытворчых сіл, якія абумоўліваюць нярэдка самы характар народнае гаспадаркі (у паляўніча-прамысловых альбо рыбных раёнах СССР) і якія заўсёды робяць большы ці меншы ўплыў на гэтую гаспадарку, становіцца зразумелым тое, што для стварэньня правільнага, рацыянальнага, плянава-арганізованага, сацыялістычнага тыпу гаспадаркі, неабходна перш за ўсё ўлічыць і выявіць усе наяўныя натуральныя рэсурсы краіны, каб была магчымасьць з дастатковай поўнасьцю іх выкарыстаць, калі патрэбна—захаваць і надалей, павялічыць, ці зьмяніць, згодна запатрабаваньням гэтае сацыялістычнае гаспадаркі. З гэтага пункту погляду вывучэньне фауны павінна весьціся перш за ўсё ў тых яе аддзелах, сярод якіх маюцца найбольш практычнага значэньня аб'екты, напр., паляўнічыя віды, прамысловыя (пушныя) віды, грызуны (шкоднікі), учыніцелі (возбудители) і пераносчыкі хвароб чалавека і хатняй жывёлы, шкоднікі лесу і сельска-гаспадарчых культур. Разам з гэтым павінны вывучацца і тыя карысныя віды, якія зьнішчаюць гэтых шкоднікаў, г. зн. казуркаядныя птушкі, драпежнікі (дробныя) сярод сысуноў і птушак і некаторыя шасьціножкі, якія зьнішчаюць шкодных відаў і якія тым самым зьяўляюцца нібы нашымі саюзьнікамі ў барацьбе з апошнімі.

Пры складаньні праэктаў розных тыпаў інтэнсыўных гаспадарак, напр., жывёлагадоўчых, лясных, зернавых культур, тэхнічных культур (цукровых буракоў, масьлянічнага насеньня, лекавых траў і інш.), якія маюць быць утвораны на Палесьсі пасьля мэліорацыі, вельмі важна ведаць наперад, што можа ў дадзенай мясцовасьці пагражаць дадзенаму тыпу гаспадаркі, якія натуральныя ворагі тут ужо маюцца, на якіх саюзьнікаў у барацьбе з імі мы можам спадзявацца, якія захады патрэбна папярэдне прыняць для таго, каб аслабіць ці зусім зьнішчыць іх адмоўленую ролю.

З другога боку ўжо самі па сабе вялізарныя мэліорацыйныя мерапрыемствы ў выглядзе паўсямеснай асушкі вялізарных масываў, аблясеньне сыпучых пяскоў, зьмены напрамку і глыбіні рачных руслаў, зьмены лясных плошчаў, узьнікнавеньне новых паселішч, правядзеньне новых шляхоў і г. д.—усё гэта настолькі павінна будзе зьмяніць сёньнешні краявід, зьмяніць географічны твар Палесься, што, само сабой зразумела, няўхільна ў сваю чаргу павінна будзе зьмяніцца аблічча і ўсяе фауны гэтае краіны. Гэтыя зьмены ў жывёльным сьвеце могуць выявіцца ў розных напрамках і зусім нечакана і неаднолькава для розных відаў і груп фауны. Зьмена гэтая будзе ня толькі колькасная, але і якасная, адны віды могуць зусім зьнікнуць, бо ня знойдуць больш для сябе падыходзячых умоў існаваньня, іншыя могуць, наадварот, — у новых умовах, створаных чалавекам, знайсьці для сябе лепшыя абставіны для росквіту і шпаркага павялічэньня, урэшце, трэція — могуць упяршыню занява тут пасяліцца і памнажацца.



Гэтая дынаміка фауны, няўхільная пры парушэньні натуральнае рухавітае раўнавагі, якая заўсёды мае месца ў больш-менш некранутай чалавекам прыродзе, ня можа не зацікавіць чалавека і яго гаспадаркі. Часта мы назіраем у паасобных выпадках гаспадарчага заваяваньня чалавекам новых тэрыторый такія. супярэчаньні паміж натуральнымі сіламі прыроды, з аднаго боку, і гаспадарчымі імкненьнямі чалавека — з другога, што толькі пры дапамозе сілы ведаў, сілы сваёй тэхнікі чалавек можа падпарадкаваць гэтыя, паўстаўшыя стыхійныя сілы або аслабіўшы іх, або зьнішчыўшы, або, урэшце, цалкам, ці часткова накіраваўшы іх на карысьць сваёй гаспадаркі.

Прывядзем некалькі прыкладаў.

Зьмяншэньне ў некаторых вучастках лясных абшараў, побач з павялічэньнем узораных плошчаў— напэўна павядуць да зьмяншэньня цэлага шэрагу лясных драпежнікаў як сярод зьвяроў, так і птушак. Зьменшацца ў колькасьці ня толькі буйныя віды (як напр. мядзьведзь, ваўкі), але і такія, як: лісы, гарнастаі, тхары, куніцы, шмат якія пароды лясных соў, канюкі, сіваграчкі і інш., зьменшыцца колькасьць шмат якіх відаў лясных птушак, шасьціножак і інш. З другога боку, тыя-ж самыя прычыны выклікаюць павялічэньне фауны адкрытых абшараў—зернаедных птушак, жаўранкаў, луней, грычуноў (сорокопутов), а з зьвяроў колькасна можа ўзрасьці толькі фауна грызуноў (палёвак-жытнікаў, мышэй, зайцаў і інш.), бо шмат якія з іх натуральных ворагаў, якія да гэтага абмяжоўвалі іх надзвычайную пладлівасьць, зьнікнуць разам з лесам, альбо, ва ўсякім выпадку, зьменшацца ў сваім ліку.

З асушкаю балотных масываў зьменшыцца фауна балотных і вадзяных птушак, але разам з гэтым зьнікнуць альбо абавязкова зьменшыцца цэлы шэраг такіх кравапіўцаў, як камары, авады, сьлепні і інш. мухі, якія бяз стаячай вады ня могуць абыйсьціся.

Словам, раўналежна зьменам краявіду ў выніку мэліорацыі будзе адбывацца вялікая зьмена і ў складзе і ў разьмеркаваньні фауны.

У сувязі з гэтым у задачы экспэдыцыі якраз і ўваходзіць выяўленьне ня толькі сучаснага стану фауны, але і ўлічэньне ўсіх магчымых будучых зьмен у яе складзе і колькасьці, прадбачыць і паказаць на неабходныя мерапрыемствы для захаваньня найбольш каштоўных відаў, асабліва з паляўнічае фауны, выявіць умовы існаваньня яе і дапамагчы скласьці праект арганізацыі правільнай паляўнічай гаспадаркі на тэрыторыі Палесься.

У задачы экспэдыцыі ўваходзіць таксама адшуканьне найбольш адпаведнага абшару, які варта было-б пакінуць у якасьці палескага запаведніка і ў якім захаваўся-б кавалачак некранутай чалавекам прыроды. Для паляўнічае справы палескі запаведнік таксама меў-бы адпаведнае значэньне ў якасьці рэзэрвату, у якім захоўваліся-б і пладзіліся-б найбольш каштоўныя зьвяры, якія не знаходзілі-б ужо для сябе неабходных умоў існаваньня сярод акультураных чалавекам абшараў.

Пералічаныя задачы Палескай экспэдыцыі ў значнай меры датычацца інтарэсаў паляўніцтва і паляўнічае гаспадаркі і таму цэнтральнае праўленьне саюзу паляўнічых БССР не магло ня прыняць магчымага ўдзелу ў працы паказанай экспэдыцыі *).

*) Саюзам паляўнічых БССР была асыгнавана значная сума (750 р.) грошай і часова адкамандыраваны для ўдзелу ў працах экспэдыцыі адзін з супрацоўнікаў праўленьня—лесавод П. Семашко. За паказаную каштоўную дапамогу карыстаюся выпадкам прынесьці сваю падзяку ЦПСП.

Уся праца палескай экспэдыцыі першапачаткова была разьлічана на $2^1/_2$ года. У плян працы ўваходзіць дасьледваньне тэрыторыі Рачыцкага і Мазырскага Палесься ўсяго па абшару каля 50 быўш. лясьніцтваў.

Праца экспэдыцыі пачалася ў траўні м-цы, калі была арганізавана і адпраўлена ў Палесьсе партыя з пяці супрацоўнікаў. На працягу летніх месяцаў і верасьня, г. зн. за $4^1/_2$ м-цы была абсьледвана 265.000 *га* толькі лясной плошчы (16 лясьніцтв). За паказаны час дасьледвана паквартальнае разьмеркаваньне паляўнічае фауны, што дазволіць упяршыню (дзе-б там ні было) скласьці падрабязную і дакладную картаграму сучаснага распаўсюджваньня ўсіх відаў лясной паляўнічай фауны. Часткова на паказанай тэрыторыі ўдасца скласьці ўпяршыню, г. зн. **воўчую карту**, з паказаньнем усіх знойдзеных у бягучым годзе воўчых вывадкаў. Будуць нанесены на карту ўсе лісіныя і барсучыя норы, месцы таковішч і вывадкаў глушцоў, цецярукоў і інш.

Сабраны дадзеныя аб эканоміцы паляўніцтва ў абсьледваных раёнах. Складзены падрабязныя і дакладныя сьпісы птушак для кожнай ляндшафтнай станцыі. Выкананы досьледы па складу фауны грызуноў, выяўлены відавое і адноснае колькаснае значэньне іх. На працягу працы экспэдыцыі знойдзены некаторыя невядомыя да гэтага для мясцовай фауны птушак віды (ня гледзячы на тое, што ў гэтай мясцовасьці 4 гады таму назад працавала экспэдыцыя Смаленскага Унівэрсытэту). Упяршыню даведзена гнездаваньне цэлага шэрагу птушак у Рачыцкім Палесьсі.

Апрача таго, сабраны вялікія матар'ялы па біолёгіі, эколёгіі і паразытах шмат якіх відаў, у тым ліку і паляўнічае фауны.

Усяго на працягу $4^1/_2$ месяцаў сабрана 161 экз. сысуноў, 603 экз. птушак, шмат банак са сьпіртовымі калекцыямі (паразіты, страўнікі жывёл, узоры пашкоджаньняў і г. д.) і каля 100 фота-здымкаў.

У будучым годзе палявы пэрыяд экспэдыцыі адновіцца з красавіка. Усяго мяркуецца накіраваць 3 партыі, але трэба адзначыць, што пры фармаваньні іх адчуваецца вялікі недахоп у патрэбных спэцыялістых—паляўніцтваведах і біолёгах, знаёмых з паляўнічаю фаунаю. Патрэбны вопытныя паляўнічыя (для паквартальнага вучоту і рэгістрацыі паляўнічых відаў), якія згадзіліся-б прыняць удзел у экспэдыцыі *).

**Праф. А. Фядзюшын.**

*) Асобы з ліку вопытных і выносьлівых паляўнічых, маючых адпаведную адукацыю (агульную) і зацікаўленыя ва ўдзеле ў працах экспэдыцыі могуць звярочвацца па гэтаму пытаньню да кіраўніка экспэдыцыі па адрасу: Менск, Бел. Акад. Навук, Зоолёгічн. Музэй. Проф. А. У. Фядзюшыну.

**(Рэдакцыя).**

**Мабілізацыя сродкаў, найбольшая эканомія ў выдатках, сваячасовая здача пушніны паляўнічымі ў сваю коопэрацыю і рэалізацыя яе—вось задачы, якія стаяць зараз перад паляўнічымі організацыямі.**

**Паляўнічы! Здавай пушніну ў тэрмін.**

# Чаму вы не паляўнічыце з вінтоўкай.

Паляваньне з наразнымі стрэльбамі дагэтуль у нас мала разьвіта, між тым здабываньне птахі і зьвера ня шротам, а куляй заслугоўвае самай сур'ёзнай увагі з боку паляўнічай грамадзкасьці.

З спартыўнага пункту погляду стральба куляй— вельмі цікавы спорт, даступны для ўсіх узростаў. Па лініі Асавіяхіму стралок—снайпер і проста добры стралок неабходны для абароны краіны Саветаў. З прамыслова-паляўнічага пункту погляду—паляваньне з вінтоўкай у шмат якіх выпадках здабычлівей паляваньня з шратавікам, пераважна позна ўвосень і ўзімку і асабліва ў тых мясцох, дзе вінтоўкі вельмі мала ці зусім не дапасоўваюць для паляваньня.

Для савецкага паляўнічага стральба куляй павінна быць цікава ва ўсіх памянёных адносінах. Калі мы жадаем быць добрымі стральцамі, мы павінны быць такімі. Здавальняючая стральба куляй—не такое ўжо цяжкае штукарства, як яно шмат каму здаецца. Добра страляць на паляваньні можна вывучыцца ў кароткі тэрмін—былі-б цьвёрдыя жаданьні, настойлівасьць і цярпеньне для дасягненьня гэтай мэты. Ня трэба забываць, што стралок з вінтоўкі разьвівае і ўзмацняе такія станоўчыя якасьці свайго характару, як супакой, вытрымка, упэўненасьць, рашучасьць, дакладнасьць, настойлівасьць і сіла волі, што ў наш век нэрвовых хвароб і клясавай барацьбы, якая ўсё ўзмацняецца, мае вельмі важнае значэньне для ўсіх працоўных.

На паляваньні, пры дабываньні птахі і зьвера, вінтоўка ў шмат якіх выпадках можа з посьпехам замяніць шратавік. З вінтоўкі вы ня можаце страляць толькі ў лёт па птушцы, але ў такой стральбе на паляваньні не заўсёды сустракаецца патрэбнасьць. Толькі на 120--150—200 крокаў птаха і зьвер у большасьці выпадкаў падпускаюць паляўнічага і дазваляюць добра прыцэліцца. Вінтоўка забівае дзіч на куды большай адлегласьці, чым шратавік. Тое, што па адлегласьці недасяжна для шратавіка—дасяжна для вінтоўкі. Пры ўсім гэтым вінтоўка менш палахое дзіч, менш дае падранкаў, чым шратавік, што вельмі важна для паляўнічае гаспадаркі. Даволі толькі добра страляць, тады ня так ужо цяжка здабываць куляй ліса і зайца, цецярука і качку, каршуна і ваўка. Паляваньне з падыходу, паляваньне на засідцы— цікавейшыя віды паляваньня і яны якраз найбольш падыходзяць для вінтоўкі.

Пападаньне куляй дастаўляе паляўнічаму куды больш задавальненьня, чым дубальт шротам.



Тут кожная куля, дасягнуўшая мэты, ясна паказвае, дзе цэнтр пападаньня. Вінтоўка не дае ні хваравітай аддачы, ні няпрыемнага грукату, як гэта бывае пры стральбе з шратавікоў. Прыпасы для вінтоўкі меншай вагі і танней, чым да шратавіка. Вінтоўку і прыпасы набываць ня цяжка, яны вырабляюцца нашымі заводамі і каштуюць даволі дзёшава.

Шмат каму, мала знаёмаму з вінтовачнай стральбой, здаецца, што стральба куляй—штукарства, якога цяжка дасягнуць і даецца яно нібы далёка ня ўсякаму. Гэта ня зусім верна. Вядома, прафэсыяналам-стралком зрабіцца нялёгка і ім зрабіцца ня ўсякаму ўдаецца, але страляць добра на паляваньні, мне здаецца, даступна амаль усякаму. У гэтым я ўпэўніўся шмат разоў. Сярод маіх вучняў па стральбе куляй шмат было такіх, якія перамаглі мяне ў гэтым штукарстве, большасьць стала ўпаўне задавальняючымі стралкамі і толькі некаторыя закінулі вінтоўку. Цікава, што некаторыя з маіх вучняў былі ва ўзросьце ад 40 да 52 год і сьпярша баяліся брацца за кулю. Мне цяжка было ўпэўніць іх, што ўзрост ня пры чым, што патрэбныя акуляры, калі яны патрэбны, ня цяжка падабраць, што даволі толькі мабілізаваць настойлівасьць, сілу волі і цярпеньне для рэгулярнай трэніроўкі і можна выйсьці ўпаўне здавальняючым стралком. Яны хутка сталі добрымі стралкамі і прыхільнікамі стральбы куляй. А як захапляюць яны сваёй стральбой маладняк на паляваньні.

Ці шмат хто з нас паляўнічых-пралетараў маюць магчымасьць абзаводзіцца ганчакамі, дарагімі выжламі, дарагімі дубальтоўкамі, езьдзіць на аблавы? Толькі некаторыя, таму, што то сродкі, то работа не дазваляюць. Нашаму брату даступна паляваньне з падыхода, а пры вінтоўцы такое паляваньне найбольш дабычлівае, асабліва позна ўвосень і ўзімку. Узяць мышкуючую „кумушку-лісіцу“, пакласьці ру-

ёака, які спыніцца на недасяжнай для шратавіка адлегласьці, або перавярнуць дагары лапкамі качара, які спакойна плавае на пляжы,—усё гэта ня так ужо цяжка зрабіць куляй, як шмат каму эдаецца, а ажыцьцёвіць падобныя нумары з вінтоўкі на адлеглассцях каля 100 крокаў і далей можна куды вярней, чым з якога хочаш шратавіка.

Маючы на ўвазе ўсё гэта, думаю, што паляўнічы, бяз вінтоўкі—ня сучасны паляўнічы, што паляўнічы, які не страляе добра куляй, адсталы ад жыцьця спартсмэн, паляўнічы, які ня любіць нарэзнай зброі і ня ўмее з ёй абыходзіцца—не ўпаўне савецкі паляўнічы. Мы, паляўнічыя, павінны добра ўмець страляць куляй на паляваньні. Мы павінны даць Чырвонай армії найлепшы матэрыял для разьведкі, для спайпера, а працоўнаму фронту—мяса, пушніну і з загартаваным здароўем працаўнікоў.

**Уладзімер Макарэвіч.**

(*Працяг будзе*).

# 14-ці гадовы Ўсеамэрыканскі чэмпіён стральбы шротам.

У Амэрыцы, дзе забаронена стральба па жывых птахах на садках, карыстаецца вялікай пашанай стральба па талерачках. Мне перадавалі амэрыканскія фабрыканты патронных заводаў, што яшчэ да вайны гэты спорт паграбаваў некалькі дзесяткаў мільёнаў патронаў штогод. Пры таннасьці патронаў (да вайны за сотню можна было плаціць каля 5 руб. пры зарадцы бяздымным порахам і каленым шротам), пры дзешавізьне стрэльбаў (ад 45 руб. і вышэй) і пры звычайнай плаце за талерачку ў 1 сен, або дзьве капейкі, спорт быў даступны ўсякаму, тым больш, што членскі ўзнос хістаецца звычайна ад даляру (каля двох руб.) у год і вышэй.

У Злучаных Штатах (і асобна ў Канадзе) разыгрываецца некалькі чэмпіёнатаў: для профэсіяналаў-стралкоў (звычайна гэта служачыя аружэйных і патронных заводаў) і для аматараў. Чэмпіёнат датычыцца асобна заходняй, цэнтральнай і ўсходняй частак САЗШ, і, апроч таго, распадаецца на шэраг клясаў: агульны, юнацкі, піянэрскі і інш. У кожным амаль асобным штаце ўтвараюцца свае ўласныя чэмпіёнаты мясцовага значэньня, адпавядаючыя нашым абласным ці губэрнскім.

Канчатковым выпрабаваньнем штукарства стралкоў, зьяўляецца ўсеамэрыканскі гандзікапны чампіёнат, на якім выступаюць лепшыя амэрыканскія стралкі ў колькасьці некалькіх соцень. Зьезд-жа аматараў стралкоў-наглядальнікаў налічваецца ў некалькі тысяч.

У 1930 годзе гэты ўсеамэрыканскі чэмпіёнат быў узяты 14-гадовым хлопцам Альфрэдам Руфусам Кінгам.

Калі 22 жніўня летась пачалася стральба каля г. Вэндалія, (штат Огайо) імя Альфрэда Кінга, як спаборцы на ўсеамэрыканскім чэмпіёнаце, ня было вядома. Ён выступаў у клясе „піянэрскім") да юнацкім), і з 100 талерачак разьбіў 87 за тры дні да пачатку ўсеамэрыканскага чэмпіёната. Назаўтра ён на папярэднім градзікопе разьбіў 25 радавых і тады-ж прасіў цэлы дзень свайго бацьку аб дазволе выступіць у спаборніцтве на званьне чэмпіёна Амэрыкі.

Бацька, урэшце, даў згоду і аддаў сыну сваю магазынку Вінчэстэра (12 кал.), якой ён узяў Паўночна-Амэрыканскае пяршынство па стральбе дубальтам (па дзьвюх талерачках, выпушчаных разам) у 1921 і 1922 г. г. Па амэрыканскіх правілах, стральба вядзецца партыямі па 5 чалавек і кожны дае па чарзе адзін за адным 25 стрэлаў, пасьля чаго іх зьмяняе другая партыя. Кожны павінен даць наогул 100 стрэлаў, але, даўшы 5 промахаў, ужо пазбаўляецца надзеі на пяршынство.

Альфэрд Кінг ўзяў першыя 25 талерачак бяз промаху і прыняў удзел у стрэльбе па другой сэрыі з 25 стрэлаў. І зноў ім былі разьбіты 25 талерачак бяз жаднага промаху. Па меры адпадзеньня стралкоў пасіліўся інтарэс да посьпехаў хлапчука і пасьля яго пападаньняў падрад, сымпатыі публікі павялічыліся да маладога стралка. Толькі на 63 талерачцы Кінг даў першы промах, другі быў на 75 талерачцы, з агульным вынікам 73 з 75. Пачалася апошняя сэрыя з 25 і з іх ён адну прамазаў і агульны вынік быў 97. З такім-жа посьпехам было яшчэ тры стралка: Крамптон, Кеззй і Скот.

Пачалася перастрэлка. Калі вышлі ўсе апошнія чатыры кандыдаты на званьне чэмпіёна, дык хваляваньне публікі ўзрасло да крайніх разьмераў: супроць хлапчука выступалі вэтэраны-стралкі, маючыя па 10—20 год стралковай практыкі і, натуральна, сымпатыі былі за яго. Пачаліся пары, пры чым шмат хто ставіў за Кінга.

Крамптон прапусьціў 2-ю, 8-ю і 18-ю талерачку і з промахамі страціў усякія шансы на пяршынство. Скот прамахнуўся на двох: на 2-й і на 22-ой. Кеззй прамазаў таксама два разы. Кінг прапусьціў 14-ю.

Перад апошнім 25-м стрэлам Кінга становішча было такое: Кінг—1 промах, Скот і Кеззй па два і Крамптон—3 промаха. Застаўся апошні стрэл за Кінгам. Далі талерачкі і ён найлепшым чынам разьбіў яе.

Такім чынам ён стаў чэмпіёнам САЗШ на ўсеамэрыканскім гандзікопным чэмпіёнаце.

Дабаўлю да ведама чытача, што па амэрыканскіх правілах, ложу можна прыкласьці да пляча і толькі тады дае стралок сыгнал аб падачы талерачкі. Можна даць толькі адзін стрэл і першы промах ёсьць наогул промах.

Здавальняючым стралком лічыцца такі, які разьбівае 85 проц., 90—добрымі 35—найлепшым. Выпадкі разьбіваньня падрад 100 талерачак не ўяўляюць чаго-небудзь нязвычайнага і такія выпадкі мне асабіста вядомы з амэрыканскіх спаборніцтваў. Выбіўшы-ж 97, 98 і 99 проц.—справа звычайная.

**Ул. Генерозаў.**

# Якая нам патрэбна стральба.

У „Охотничьей газете" выданьня „Всекохотсоюза" надрукован артыкул т. Маркевіча аб яго карабіне „Вем". Я лічу, што нам патрэбны ня толькі шротавыя стрэльбы, але і нарэзныя, бо ёсьць шмат паляўнічых, вельмі жадаючых страляць куляй.

Такой стрэльбай, памойму, зьяўляецца карабін сыстэмы т. Маркевіча. Гэта трохнабойная стрэльба аматарскага тыпу, перароблена з нашых вайсковых вінтовак, але не пад вайсковы патрон. Тыя з таварышоў, якія цікавяцца гэтай стрэльбай, могуць знайсьці апісаньне яе ў „Охотничьей газете", выд. т-ва „Московский Охотник" от 5 октября 1929 г.

Там дасканальна т. Маркевіч растлумачвае, як пабудаван яго карабін „Вем". Наша паляўнічая ячэйка пры чыгуначных майстэрнях (Гомель) будзе вельмі прасіць „Белкохотсоюз" заказаць для Беларусі 2—3 карабіны праз т. Маркевіча, а „Всекохотсоюз" і ваен. вед. павінны дапусьціць зрабіць партыю карабінаў „Вем" сыстэмы т. Маркевіча для Беларусі. Кошт 50—60—70 руб. за гэты карабін не вялікі, а пры масавым выпуску будзе шмат ніжэй.

Карабін, як гэта казалася, 3-х набойны. Вага 3 кгр. і 400 гр., цэўе кароткае, затвор як у вінтоўцы Маўзэр, ложа арэхавая. Бой на 300 і 150 мэтраў у круг 20 снт. Вінтоўка зроблена пад наш савецкі патрон, які можна рабіць самому паляўнічаму. З гэтым карабінам можна паляўнічаць і на цецярука і на такога зьвера, як кабан, зразумела, пры належных набоях патронаў. Мне даслана фотографічная картка гэтага карабіна ад т. Маркевіча, але самаго карабіна набыць немагчыма.

Я зьвяртаюся да часопісі „Паляўнічы Беларусі", каб яна стварыла грамадзкую думку аб завозе ў Беларусь некалькі такіх карабінаў.

**Е. І. Рамбаеў.**

# Сабакагадоўля.

## Параты ці пешы.

Часта прыходзіцца чуць ад паляўнічых, што для ружэйнага паляваньня наогул карысьней пешы ганчак, бо з-пад яго зьвер ідзе цішэй, не забягаючы празьмерна далёка, робіць больш правільныя колы і г. д.

На старонках пэрыядычна паляўнічага друку спэцыялістыя-ганчатнікі не адзін раз абгаварвалі гэту думку і тлумачылі, што лягчэй і хутчэй перахапіць зьвера, калі ганчакі „вісяць у яго на хвасьце“, у выніку чаго паляўнічыя ў кожны момант ведаюць, дзе знаходзіцца зьвер, лёгка дагадваюцца куды ён ідзе, і пасьпяваюць яго правільна перахапіць. З гэтымі довадамі цяжка не згадзіцца. І тым ня менш, а менавіта, у Беларусі, часьцей прыходзіцца сустракаць прыхільнікаў пешага ганчака, пераважна цяжкай польскай пароды.

Чым-жа тлумачыцца такая незразумелая ўпартасьць. Як гэта звычайна бывае заўсёды ва ўсіх спрэчках, яны ўтвараюцца ад недахопу яскравай і чоткай пастаноўкі пытаньня. Калі ставіцца пытаньне аб паратасьці, дык у чытача нямінуема складаецца думка, нібы паратасьць зьяўляецца самай асноўнай якасьцю ў рабоце ганчака.

Па мойму, паратасьць зьяўляецца сапраўды асноўнай якасьцю толькі для паляваньня парфорскага і ў значнай меры для паляваньня з борзымі. Для паляваньня з стрэльбай гэта якасьць вельмі і вельмі другарадная. Бязумоўна, калі мы маем двух ганчакоў або, яшчэ лепш, два смычкі або нават дзьве стаі, — пры чым усе апошнія якасьці ва ўсіх выпадках зусім аднолькавы, дык, вядома, паратая стая і для паляваньня з стрэльбай на любога зьвера карысьней пешай. Але ці можа такое меркаваньне мець месца на практыцы.



Вышлі.

Вядома не. А між тым для паляваньня са стрэльбай важней за усё наступная якасьць ганчакоў: чульлівасьць, палазістасьць і вязкасьць. Гэтыя тры якасьці настолькі важней за ўсіх апошніх, у тым ліку і за паратасьць, што, гаворачы аб большай прыгоднасьці той ці іншай пароды ганчакоў, прыходзіцца паратасьць амаль што ігнараваць. Так, напрыклад, у жылах цяжкага польскага ганчака, які яшчэ і дагэтуль захаваўся ў Польшчы, а можа быць і ў Беларусі, цячэ кроў вядомага французскага або, праўдзівей кажучы, бэльгійскага (фляндорскага) ганчака Губерга, які быў вядомы ў сярэднім веку вялізарным нюхам і вязкасьцю. У французскіх кроніках занесены выпадкі, калі рыцары гналіся за адным і тым-жа аленем на працягу трох сутак, пакуль, урэшце, ня бралі яго. Пры наступленьні цемнаты яны ззывалі ў паляўнічы рог паслухмяную стаю, бралі яе на прывязь, а потым, пераначаваўшы ў кастра і адпачыўшы, з наступленьнем раніцы прыводзілі сабак да пакінутага аленьняга сьледу, і траўля хутка пачыналася зноў.

Аб такім удасканаленьні ганчакоў мы зараз і думаць ня можам. А між тым ганчак Губерга, лепш за ўсё захаваў свой тып у ангельскім „крывяным“ сабаку (блёндгаўнд). Гэта быў грузны і вельмі пешы ганчак. Няма чаму дзівіцца, што палякі, якія маюць гадавальнікі, аддаюць ім перавагу, замест фоксгаундаў, ня маючых нюху.

Да апошняга часу ў Беларусі захаваліся дзікія козы. Ці можа параўнацца

шпаркасьць самога паратага ганчака з цудоўнай шпаркасьцю бега красуна казла. Што мне да паратасьці, калі стая страціць казьліны сьлед на песчанай дарозе лясных курганаў, паросшых чаротам балот Палесься[1]).

І так, хваліць пешасьць у якасьці дасягненьняў пры ружэйным паляваньні, вядома, ня верна, але мірыцца з гэтым недахопам можна, і нават трэба, высоўваючы на першы плян другія, больш неабходныя якасьці. Такой самай пароды, якая-б мела ў сабе ўсе якасьці[1]), ня толькі ня існуе, але і ня можа існаваць, бо адны якасьці звычайна выпрабляюцца за кошт іншых.

**М. Петрункевіч.**

[1]) Праўда, у сучасны момант паляваньне на дзікіх коз забаронена, але гэта толькі часовая мера, пакуль яны расплодзяцца.

[1]) Не на апошнім месцы трэба паставіць напр. галасістасьць, ды і некаторыя другія якасьці, гутарыць аб якіх у гэтым артыкуле я ня маю неабходнасьці.

## Сабакагадоўля ў Барысаўскім раёне.

Ні для кога не сакрэт, што кроўная сабакагадоўля ва ўсёй Беларусі заняпала. Хоць у друку аб гэтым ня раз напаміналася, але рэальнага нічога не рабілася і ня робіцца цяпер на мясцох. Астатнія надзеі на выхавальнік „Белкохотсаюза“ з закрыцьцём яго, спынілі нават і думку мець лепшага кроўнага сабаку ня толькі паасобнаму паляўнічаму, але і нават і сэкцыі сабакагадоўлі.

З поўнай сур'ёзнасьцю паляўнічыя Барысаўскага раёну ўразумелі, што за іх некаму паклапаціцца і што будаваць гаспадарку належыць толькі сваімі сіламі і што далей адкладваць гэту справу нельга. Паляўнічаму няма з кім здабываць пушніну, а бессабачнасьць накіроўвае яго на рознае браканьерства.

Абгаварылі гэта пытаньне актывам. Агульны сход і конфэрэнцыя ўхвалілі і дабраахвотна асыгнавалі сродкі на разьвядзеньне заводзкіх сабак. Тут, як грыб, вырасла сэкцыя сабакагадоўлі, якая ўзялася за справу і па пляну стала выконваць волю свайго калектыву.

22 чэрвеня г. г. адбылася вывадка і сэкцыя выявіла мясцовы матар'ял паляўнічых сабак.

Якасьць сабак аказалася дрэннай, сэкцыя выпісала ад ганчатніка 15 лепшых палявых па крыві шчанкоў, выпісала 7 шчанкоў з Маскоўскага выхавальніка і атрымала з „Белкохотсаюза“ у розны час 3-х шчанкоў, такім чынам набыта 25 сабак і плюс свае, прайшоўшыя на дыплёмы, 29 узрослых сабак. Выпісаныя сабакі аддадзены паляўнічым пад кантрактацыйныя абавязацельствы. Утвараецца за імі найлепшы догляд. Сэкцыя вядзе радаслоўную кнігу. Прэміраваныя на вывадках і асабліва выпісаныя будуць вязацца толькі па ўказаньню сэкцыі, якая рэгістрырує вязкі, будзе наглядаць за пароднасьцю і адбору на племя шчанюкоў.

Мэты і задачы сэкцыі кожнаму паляўнічаму вядомы і пры тым энтузіязьме, якім зараз захоплены паляўнічыя, барысаўскі калектыў будзе мець добрыя вынікі.

**Стрыгуцкі.**



Здабылі.

## ПАСТАНОВА

**Для лепшай работы паляўнічай коопэрацыі ЦП „Белкохотсоюза“ пастанавіла разлучыць аб'ядняныя таварыствы і арганізаваць у кожным адміністрацыйным цэнтры раёну раённыя т-вы паляўнічых.**

**„Белкохотсоюз“.**

# Паляўнічая практыка.

## Два чыронкі.

Бязумоўна, шмат якім паляўнічым прыходзілася назіраць выпадкі, якія характарызуюць устойлівасьць жыцьцёвай энэргіі дзічы пры параненьнях. На жаль, у друку, мы рэдка сустракаем апісаньне такіх выпадкаў, хоць, апрача агульнага інтарэсу, яны, да некаторай ступені, не безінтарэсны і з навуковага пункту погляду.

Каб хоць часткай запоўніць гэты прабел, прыводжу два выпадкі аднэй маёй паляўнічай практыкі.

Амаль дваццаць год назад, цёплым летнім днём я і Н. К. паляўнічылі на качак, на выжарынах невялікага тарфянага балота недалёка ад сяла Журнова, былой Мірыцінецкай воласьці, Вялікалуцкага павету, Пскоўскай губэрні. Узьняты сабакам чыронак, пацягнуў у бок Н. К. на вышыні росту чалавека, , пасьля стрэлу, камнем зваліўся да долу. Калі я падышоў да Н. К., чыронак ляжаў у яго далоні рукі бяз усякіх адзнакаў жыцьця. Абодвы вока ў яго былі павыбітыя прайшоўшай на вылёт шрацінкай. Жадаючы ўважлівей разгледзіць раненьне, я падняў пальцам зьвіснутую без адзнак жыцьця галаву чырка. Нібы прачнуўшыся, чырок нечакана расправіў крылы і часта-часта замахаў імі. Потым паляцеў нізам, нізам, над нівамі сьпелага жыта, і скрыўся за курганом. Шукаць яго сярод гатовага да жніва жыта ня было магчымасьці і чыронак прапаў для нас назаўсёды.

У канцы жніўня м-ца я і Н. К. ішлі берагам рэчкі Каменкі (той самай воласьці), накіроўваючыся ў сенажаці пастраляць дуплякоў. Шукаўшая ўперадзе „Веста", пасьля кароткай пацяжкі, моцна стала ў невялікай зарасьлі хвашча. У той момант, калі мы падышлі блізка да замершай на стойцы сабакі, не далей пяці крокаў раптоўна ўзьняўся чыронак. Адначасна стукнулі два стрэлы, але чыронак, як ні ў чым ня было, ляцеў над рэчкай, хутка зьнікаючы ад нас. Ужо на адлегласьці больш за пяцьдзесят крокаў я стрэліў з другой рулі і чыронак, з перабітым крылом, шлёпнуўся аб ваду. Пасланая за ім „Веста" далікатна падала нашу выпадковую здабычу, беражна трымаючы зубамі за крыло. З чыста перасечанай шыі чырка моцна цякла кроў, ад галавы-ж яго не засталося аніякіх адзнакаў. Цяжка меркаваць, каб стрэл дробным шротам, пры тонкім картонным пыжы, на адлегласьці больш пяцідзесяці крокаў, мог так разьбіць чыронка. Мусіць, што ён лішыўся галавы яшчэ пры першых стрэлах—блізка, і ўсё-ж праляцеў пасьля гэтага амаль паўсотні крокаў. Магчыма, што ён праляцеў-бы і значна больш, каб ня мой стрэл, пераламаўшы яму крыло.

**А. Л.**

## Зімоўка качак.

Кароткі зімні дзень клоніцца да вечару. Скрыпелі палазы па гладкай, утоптанай зімняй дарозе. Нецярпліва фыркаючы, роўным бегам, трусіць гнеды. Брат правіць канём, а я, засунуўшы рукі паглыбей у рукавы і добра закутаўшыся ў каўнер кажуха, засыпаю, скруціўшыся ад холада.

Зьлева акутаная белым сьнегам гара. Справа паросшы кустамі балоцісты луг, з схаванымі пад сьнегам кочкамі, і лёгкім дымком перасякаюць яго рэчкай Мяленкай.

Як хлопаньне пугай, пачуўся ў марозным паветры стрэл.

— Глядзі, качкі!—сказаў брат, штурхнуўшы мяне ў бок.

Пасьпяхова адкідаю каўнер кажуха і з дзіўленьнем бачу статак крыжнаў, якія хутка несьліся ад ракі да нас.

У міг прапаў сон. Распахнуўся кажух, але стужы не адчуваю. Рука машынальна пацягнулася да стрэльбы, кончык якой выглядаў з футляра, але качкі ўжо скрыліся за гарой далёка.

Крокам пераяжджаем па вузкаму мосьціку старой плаціны ў мельніцы Рэшатава. Мельнічны пруд моцна скован лёдам і шчыльна ўтоптан плёнкай сьнегу. Але, ніжэй запруды Рэшатава, як і Меленка, чуць курыцца лёгкі дымок.

Пачуўшы блізка пакормку, гняды перайшоў на буйную рысь, і праз некалькі мінут, пад брахаsuccessoрньне злосных дварняг, падкаціў пад хату.

Добра ў цёплай хаце пасьля цэлага дню язды ў студзёную пару.

Раніцою назаўтра, запрэжаны ў сані, гняды ўжо стаяў на дварэ, калі ў хату ўвашоў Іван Рыгораў,



У дарозе.

мясцовы селянін—паляўнічы з прапановай купіць забітага ім качара. Па словах Івана Рыгорава,— гэта дзесяты качар, забіты ім у гэту зіму. Звычайна ён здабывае ўзімку да двох дзесяткаў цяжкіх, тлустых крыжнаў, з ліку штогод зімуючых на рэчках Рэшаткова і Меленка, якія не пакрываюцца лёдам нават у самыя лютыя марозы і даюць прытулак для зімаваньня качак.

**А. Лаўроў.**

# „Пскавічы“.

Шмат каму з нашых паляўнічых у дастатковай меры знаём пскаўскі спосаб аблаўных паляваньняў, з дапамогай сьцяжкоў ці аблаўнага шнура. У той-жа час наўрад ці знаёма шмат каму ўзьнікнавеньня гэтага паляваньня.

Ужываньне „падвесак“, пры аблаўных паляваньнях, перш-на-перш стаў дапасоўваць, селянін вёскі Острава (Запалянскай воласьці, Порхаўскага павету, Пскаўской губэрні), якога звалі Лука. Ён быў вядомы сярод аматараў абласных паляваньняў, як выдатны спэцыялісты—абкладчык. Як вялікі была яго папулярнасьць, можна судзіць хоць бы з таго, што яшчэ шмат год пасьля яго сьмерці, абкладчыкі—„пскавічы“, часта называліся таксама „лукашамі“.

Дапасаваньне „падвесак“ хутка перанялі аднасяльчане Лукі, амаль пагалоўна паляўнічыя і прафэсіяналы абкладчыкі. У далейшым-жа, ужываньне „падвесак“ стала вядома ўжо большасьці абкладчыкам ня толькі прафэсыяналам, але і аматарам.

На працягу цэлага шэрагу год, паступова пашыраючыся, далёка не бяз удзелу вопытных паляўнічых аматараў—„падвескі“ уступілі месца сьцяжкам, якія ў сваю чаргу зьмянілі аблаўны шнур, і самы спосаб паляваньня атрымаў назву паляваньня пскаўскім спосабам, які моцна ўстанавіўся.

Трэба сказаць, што „лукашы“—„пскавічы“ былі вялікімі майстрамі сваёй справы і абкладзены імі зьвер ня толькі звычайна выстаўляўся імі на лінію стралкоў, але ня рэдка нават на асобныя, зараней вызначаныя нумары. Дасягненьню гэтай апошняй задачы, садзейнічалі ўсе тыя-ж першапачатковыя падвескі, у большасьці выпадкаў шапка, рукавіцы, шалік і іншыя часткі адзежы „пскавіча“, разьвешаныя ім ужо ў самым абкладзе для напалоханьня зьвера ў патрабуемым напрамку.

У 1914 годзе, вёска Острава была буйным для Пскаўской губэрні паселішчам, якое налічвала каля трохсот двароў, сярод якіх нямала было добрых паляўнічых. Яшчэ ва ўзросьце 10-11 год, сыны часта ішлі на паляваньне з сваімі бацькамі, дапамагаючы ім у выкананьні далёка ня лёгкіх абавязкаў абкладчыка, з малых лет уцягваючыся і прыглядаючыся да іх работы. Так, з пакаленьня ў пакаленьне перадаваліся набытыя дзядамі вопыты і прывычкі і вырабляліся ня стомленыя спэцыялістыя абкладчыкі. Звычайна, да таго ўзросту, калі большасьць нашай моладзі толькі пачынае жартаваць з стрэльбай, „будучыя“ „лукашы“—„пскавічы“, бывалі ўжо добрымі паляўнічымі, маючымі дастатковы вопыт, вытрымку, настойлівасьць і вялікую выносьлівасьць.

Гэтыя выдатныя, амаль прыраджоныя здольнасьці „пскавічоў“ ураджэнцаў в. Острава, утварылі ім вядомую папулярнасьць сярод паляўнічых, якімі яны па заслугах карыстаюцца і зараз. Такім чынам, пскаўскі спосаб аблаўных паляваньняў, які зарадзіўся ў в. Острава, стаў агульным дасягненьнем усіх паляўнічых і атрымаў шырокае дапасаваньне на тэрыторыі нашага вялізарнага СССР.



У марозную раніцу.

Калі ўся падрыхтоўка канчаецца, загоншчыкі пад кіраўніцтвам памоцнікаў распарадчыка, а стралкі пад кіраўніцтвам распарадчыка накіроўваюцца да логаваў, лепш за ўсё пяшком.

За кілёмэтр, нават паўтара ад гнязда, усякі шум і крык павінны спыніцца: забараняецца нават гучна гаманіць. Калі ўмовы мясцовасьці дазваляюць расставіць стралкоў супроць ветру, дык іх расставіць раней, чым загоншчыкаў, калі-ж, па неабходнасьці, прыходзіцца іх ставіць па ветры, тады загоншчыкаў ставяць раней, але сьпяшацца ўсё-ж такі хутчэй пастравіць і стралкоў. Часамі, каб хутчэй абкружаць абклад людзьмі, крыкуноў дзеляць на дзьве палавіны, якія вядуцца насустрэч адна другой. Лінія загоншчыкаў павінна мець форму больш ці менш крывой дугі, зьвернутым выгнутым бокам да лініі стралкоў, расстаўляецца гэтая лінія загоншчыкаў за кілёмэтр ад логаваў, служачых цэнтрам. У чыстым і роўным лесе крыкуны разьмяшчаюцца далей і наадварот, калі гняздо ў густым лесе ці чаротах, дык бліжэй. Кожны загоншчык ціха стаіць на сваім месцы, куды яго паставілі і да падачы сыгналу не павінен ні шумець, ні пераклікацца, ні ламаць сучча, курыць таксама забараняецца. Адлегласьць ад аднаго загоншчыка да другога залежыць ад мясцовасьці, а часткай і ад напрамку ветру; наогул дыстанцыя між крыкунамі не павінна быць больш за 50 крокаў; рабіць яе менш за 20 крокаў няма асаблівай патрэбнасьці.

Стралковая лінія расстаўляецца супроць лініі загоншчыкаў; яе трэба, па магчымасьці, выцягваць у простую лінію або прыдаваць форму дугі, зьвернутай сваёй выгнутасьцю да логаваў.

Паляўнічых расстаўляюць адзін каля аднаго, ня бліжэй як на адлегласьці стрэлу; выключэньні з гэтага правіла робяцца толькі ў крэпкіх мясцох, у асаблівасьці каля галоўнага логава, але тут часьцяком ставяцца вопытныя, надзейныя стралкі, якія назначаюцца распарадчыкам або па агульнаму выбару, без жэраб'ёўкі.

Гэта ўхіленьне ад асноўных правілаў паляваньня неабходна пускаць для пасьпяховага паляваньня. Наогул расстаноўка стралкоў павінна ўчыняцца як мага хутчэй, пры захаваньні найбольшай цішыні: гамонка, а тым больш спрэчак тут зусім не павінна быць. Кожны паляўнічы становіцца абавязкова каля куста або дрэва, наогул пад аховай, а не на віду, але аднак не на паўзлесу, а трохі паводдаль або нават на адлегласьці ружэйнага стрэлу ад яго. Да скончэньня загону сурова забараняецца гаманіць з суседзямі, сходзіць з месца, ламаць ці сячы сучча і курыць. Звычайна распарадчык, вызначыўшы месца крайняму стралку, вяртаецца назад, правярае лінію і папамінае паляўнічым, каб яны ні ў якім разе не стралялі па па зайцох, птахах і г. д. Потым ён пераходзіць бокам да лініі крыкуноў, дзе яго памочнік дакладае аб тым, у якім становішчы знаходзіцца лінія загоншчыкаў. Калі там усё спраўна, распарадчык дае сыгнал стрэлам і трубіць у рог. Па гуку сыгнала, уся лінія загоншчыкаў зараз-жа пачынае разам крычаць, стукаць палкамі, абухамі тапароў аб дрэвы, грымець трашчоткамі; разам з тым яны роўнамерна пасоўваюцца ўперад, пры чым кожны загоншчык раўняецца так, каб быць на вядомым месцы ад свайго правага і ад левага суседа. Дзесятнікі або старшыня назіраюць за парадкам. Загоншчыкі, якія знаходзяцца ў сярэдзіне лініі з адным з памочнікаў распарадчыка, павінны ўвесь час ісьці ззаду крайніх, так, каб лінія ўвесь час захоўвала форму дугі. Калі ёсьць падстава думаць, што воўк правернецца з боку, г. зн. між загоншчыкаў ці між стралкоў, дык па баках ставяць так званыя крылы, г. зн. па 5—10 чалавек з кожнага боку. Гэтыя крылы стаяць зусім моўчкі і нярухома, пакуль да іх не падойдуць крайнія загоншчыкі галоўнай лініі. Тады яны выраўноўваюцца з прышоўшымі і разам ідуць да лініі стралкоў. Калі зьвер намерваецца прарвацца скрозь крылы, дык правыя загоншчыкі, не пакідаючы сваіх месц, павінны крычаць і страляць. Такім чынам яны прымушаюць зьвера зьмяніць напрамак.

Уся лінія загоншчыкаў, не перастаючы крычаць, выходзіць на стралковую лінію.

Звычайна, пры першых крыках ваўкі пакідаюць свае прытулкі і бягуць у той бок, дзе ня чуць ніякага шуму, большай часткай хмызьнякамі і сваімі звычайнымі лазамі. Уперадзе ўсіх, часта сьпяшаючыся і аглядаючыся, бягуць старыя ваўкі. За імі сьледуюць, амаль па пятах, прыбылыя і пераяркі; апошнія ўсё-ж такі, не асабліва прытрымліваюцца напрамку, прыймаемага бакамі і дзейнічаюць больш самастойна. Але ўсё ж такі рэдка бывае, каб ваўкі выходзілі на абодвы флянгі стралковай лініі: большай часткай прыходзіцца страляць нямногім стралкам, якія стаяць з боку, іменна (пры захаваньні ўсіх правілаў і пры спрыяючым ветры) тым, якія стаяць блізка да лаза. Лепей усяго, калі ваўкі выходзяць на лінію ня разам, а паступова і па адзіночцы. Гэта бывае толькі ў пачатку восені, пазьней-жа, калі лес амаль зусім абнажыцца і лінія крыкуноў відаць на вялікай адлегласьці, ваўкі не чакаюць і выбягаюць амаль разам на аднаго з паляўнічых.

Для пасьпяховасьці аблавы, вельмі важна магчыма дакладней вызначыць месца логаваў ваўкоў і іх лазы. Падвыўка ваўкоў улетку, а таксама допыты мясцовага насельніцтва, а асабліва ўласныя назіраньні, значна аблягчаюць гэтую задачу і робяць аблаву пасьпяховай.

**Н. М.**



Зіма пачалася.

# Ці ёсьць небясьпека ад стрыхніна.

Ня мала спалілі мы пораху па ваўку на працягу апошніх 6-7 год, калі воўк асабліва стаў напіраць, ня мала раскідалі карцечы, а колькі нагаварылі ўпэўніваючых слоў, пагражаючы ваўку яго зьнішчэньнем. Словам, пусьцілі ў справу, з вялікім пад'ёмам і верай у станоўчы вынік, усе паляўнічыя спосабы, а воўк, нібы зьмей-гарыныч, жыве і памнажаецца.

Ці то баяліся, ці другая якая-небудзь прычына была—адказаць пакуль цяжка, адно толькі вядома: дагэтуль стрыхнін ня пусьцілі ў справу.

На старонках паляўнічага пэрыодычнага друку (у розных выданьнях, у розны час) я ўжо дастаткова пісаў аб дапасаваньні стрыхніну ў справе зьнішчэньня ваўкоў. Таму, даводзіць мэтазгоднасьць гэтае атруты яшчэ раз мусіць будзе непатрэбна. Ніхто ня будзе спрачацца, што стрыхнін ёсьць сродак самы пэўны і дзяшовы. Пытаньне толькі ў адным: наколькі небясьпечны стрыхнін для насельніцтва, наогул, і для свойскай жывёлы, у прыватнасьці.

Нажаль, небясьпека стрыхніна павялічана і таму стрыхнін не атрымлівае праў, паўсямесна, шырокага пашырэньня, а дзякуючы гэтаму не адна воўчая стая вядзе свае рабаўніцкія справы з году ў год, працягваючы памнажацца.

— Хіба можна дапусьціць такую атруту, ды яшчэ ў вёсцы!—кажуць некаторыя, калі пытаньне датычыцца зьнішчэньня ваўкоў стрыхнінам. І далей апавядаюць, як недзе, у нейкай вёсцы, атруціўся скот: авечкі, каровы, і чуць ня коні.

— Якім чынам?—пытаешся.

— Стрыхнін застаўся на сьнягу, вясной вырасла трава на гэтым месцы, скот паеў травы і... здох.

Ці на падставе лябораторных досьледаў вера ў якасьць стрыхніна перадаваць сілу сваёй атруты ў сокі ў жывой расьліннасьці, ці ўстаноўлена ўскрыцьцём паўшае жывёлы—ня ведаю (думаю, ніхто ня ведае), толькі вера гэта моцна сядзіць ня толькі ва ўяўленьні радавога абывацеля, але нават у некаторых аўторытэтах паляўнічае справы.

Ня трэба быць хэмікам, ня трэба лябораторнага досьледу, дастаткова наступнага, простага вопыту, каб упэўніцца ў беспадстаўнасьці такой думкі.

У кветачны гаршчок насыпаць некалькі зерняў аўса, ячменю ці чаго-небудзь іншага, пакрыць зямлёй, зьверху пасыпаць стрыхнін, у дозе воўчай пілюлькі і паліваць, пакуль узрастуць зерні.

Вырасшую зелень даць ашчыпаць гусю. Прызнацельны гусь будзе дзякаваць вас за прысмакі і ў поўным здароўі будзе чакаць наступнага частаваньня.

Стрыхнін—атрута моцная. Для дарослых людзей, 300, грамы ўжо могуць быць сьмярцельны, таму адхіляць небясьпеку стрыхніна нельга.

— Як і якім чынам пусьціць такую атруту ў справу, каб мінуць дрэнных вынікаў?—запытаюцца ў мяне.

1) Стрыхнін не павінен выдавацца кожнаму і ўсякаму.

2) Адпускаць стрыхнін павінны паляўнічыя аб'яднаньні, зямельныя і мясцовыя органы толькі надзейным паляўнічым.

3) Пры водпуску стрыхніна павінна быць выдана кіраўніцтва, як зьвяртацца з стрыхнінам, як рыхтаваць пілюлі, як начыняць прываду, пакласьці яе на месца, а калі прывада засталася да вясны ня зьедзенай ваўкамі, і забраць яе. Ці пагражае каму небясьпека ад пакладзенай прывады?

Стрыхнін насыпаецца ў капсулі з белага воску. Атрыманыя такім чынам пілюлі ўводзяцца (у колькасьці дваццаці чатырох) у сабаку пад скуру. Сабака сабаку ня есьць. Глыбока ўведзеныя пілюлі пад скуру н я в ы п а д у ц ь. Значыць такая прывада (сабака ў скуры) ніякай іншай жывёле (апроч ваўка, вядома), саблазьняць ня можа.

Дапусьцім, пілюля засталася ў сьнягу (выпала з сабакі). Тады, па-першае, яна будзе зьнесена вясной вадой і засыпана зямлёй, а, па-другое, высыпаны стрыхнін на сьнег (калі пілюля расьцёрта) ніяк не дабярэцца да зямлі парашком.

Пілюля ў васковай абалонцы, бяз прыманкі ня можа быць саблазнам ні для якой жывёлы. Нават палявая мыш наўрад ці саблазьніцца воскам.

Па-мойму, полымя запаленай сьвечкі пры прадметах, якія лёгка загараюцца, у неасьцярожных руках небясьпечней, чым стрыхнін пры ўмелым зьвяртаньні.

Урэшце, каб не выдаваць стрыхнін у ненадзейныя рукі, можна даць начыненага сабаку.

Ці можа ўсё гэта пагражаць насельніцтву і свойскай жывёле. Ужо час адхіліць павялічаны страх і пусьціць у справу сродак, у станоўчым выніку якога сумнявацца ня прыходзіцца.

**Ф. Ляліп.**

# Прыплод зайцаў у гэтым годзе.

Пасьля мораў на зайцаў у 1928 годзе, у 1929 г. іх было так мала, што часьцяком за цэлы дзень паляваньня бадай што ўбачыш аднаго, а то і ні воднага.

Леташняя спрыяючая зіма, ці так якія-небудзь умовы зрабілі ўплыў на прыплод зайцаў, але ў гэтым годзе іх вельмі шмат.

15 кастрычніка ў дзень адчыненьня паляваньня мы, у ліку трох чалавек, накіраваліся на палаваньне за зайцамі ў ваколіцах г. Менску. Ганчакоў з намі ня было.

Адыйшоўшыся каля паўкілёмэтра ад гораду на „Балотнай Станцыі", мы ўзьнялі, а то бачылі як узьнялі іншыя, усяго чатырох зайцаў, але не ўзялі ніводнага. Зайцы былі ўжо зусім дарослыя, як старыя і падчас падымаліся далёка. Далей за горад, каля выстаўкі па іржэўніку. паднялі аднаго зайца і ўзялі яго. Аднаго паднялі на старой ральлі, але ён пайшоў нястрэленым. Пад Сьлепняй узьнялі яшчэ чатырох зайцаў і ўзялі з іх двох.

Усяго за дзень было знойдзена дзесяць зайцаў. За пяць год майго паляваньня каля гораду Менску, гэта адзіны выпадак па колькасьці знойдзеных зайцаў.

Такія-ж думкі аб добрым прыплодзе зайцаў у гэтым годзе выказваюць і іншыя паляўнічыя. Былі выпадкі, што на адну стрэльбу ў гэтым годзе прыходзілася браць па шэсьць-сем зайцаў у дзень.

**Мік.**

# Белая курапатка і паляваньне на яе.

Аб белай курапатцы мала сказаў Аксакаў, зусім змаўчаў Тургенеў, мала чаго сказаў і праф. **Мензьбір.**

Аксакаў адкрыта заявіў, што ён зусім незнаёмы з жыцьцём белай курапаткі і нават адзін раз толькі ў жыцьці бачыў іх жывымі.

Няма чаго казаць, што і другія нашы карыфэі за белай курапаткай не паляўнічалі і не пакінулі патомству сваіх ураджаньняў аб паляваньні за ёю з прычыны нязнаньня яе жыцьця. А большасьць сучасных пісьменьнікаў, нават тых, якія жывуць у мясцовасьцях, дзе плодзяцца курапаткі, можна сказаць з упэўненасьцю, ня ведаюць яе асаблівасьці. Тыя, хто жыве ў мясцовасьцях, дзе курапаткі няма, незнаёмы і з паляваньнем на яе.

Амаль нічога няма пра паляваньне на белую курапатку і ў старой паляўнічай пэрыядычнай літаратуры, калі ня лічыць кароценькіх допісаў і толькі аднаго, здаецца, больш падрабязнага артыкулу **В. Е. Ушакова** ў часопісі „Охота" за 1904 год.

Праўда, ня так даўно вышла брашура „Охота на курапаток" М. Пятрункевіча, у якой большая палова вызначана шэрай курапатцы і вельмі мала— белай курапатцы, а галоўнае не заўважана асаблівасьці гэтай птахі.

Вось чаму, зьяўляючыся паляўнічым з дзіцячых гадоў і па гэты час па белай курапатцы і добра ведаючы гэту птаху, я рашыў падзяліцца сваімі ведамі з нашымі паляўнічымі, наогул, а з беларусамі—у асаблівасьці, бо я сам беларус і ўсе свае маладыя годы правёў на балотах Беларусі (у былой Віцебскай губ.).

Калі паляўнічы, знаёмы з белай курапаткай, ня знойдзе чаго-небудзь новага ў гэтым артыкуле, дык маладыя паляўнічы (для яго галоўным чынам і прызначана мая брашура), якія ніколі не паляўнічылі па белай курапатцы, шмат чаго знойдзе карыснага і цікавага.

### Геаграфічнае пашырэньне белай курапаткі.

Белая курапатка жыве, галоўным чынам, на поўначы: паўднёвыя граніцы яе пашырэньня ў Эўрапэйскай частцы СССР праходзяць праз былыя губэрні: Віцебскую, Смаленскую, Маскоўскую (па паўноч. частцы), Разанскую, Ніжагародзкую, Вяцкую і Пермскую.

За Уралам гэта граніца спускаецца на поўдзень да 51 градуса паўночнай шыраты. Яшчэ далей на поўдзень плодзіцца курапатка ў Заходняй Сібіры, сустракаючыся дзе-ні-дзе на Алтае. Шмат плодзіцца белых курапатак ва Ўсходняй Сібіры. Паўночная граніца цягнецца ўздоўж пабярэжжа Ледавітага акіяну, дзе белую курапатку замяняе тундравая.

На поўначы Амэрыкі птаха гэта жыве ва ўсіх мясцовасьцях, багатых пушнымі зьверамі, між 50—70 градусаў паўночнай шыраты. У гэтых межах там яна пералётная птаха, якая з набліжэньнем зімы зьбіраецца ў вялікія статкі і ляціць на поўдзень, хаця, нават, у самыя студзёныя зімы сустракаецца яшчэ шмат у лясістых краінах пад 67 градусамі паўночнай шыраты.

Падобным-жа чынам яна перасяляецца і ў Нарвэгію кожную восень, пакідаючы мясцы гнездаваньня і статкамі, даходзячымі да 300 штук, накіроўваецца на высокія голыя часткі гор.

З Літвы і часткі Латвіі (был. Курляндзкай губ.) яны і зараз залятаюць ва Ўсходнюю Прусію, а то і ў Памеранію. Далей на поўдзень гэтыя птахі нідзе не паказваліся, але іх сустракалі і на крайняй Поўначы, а менавіта ў Грэнляндыі і Ісляндыі.

### Велічыня і апярэньне.

Белая курапатка па велічыні зьяўляецца сярэдняй між звычайным цецяруком і шэрай курапаткай.

Цела яе здаецца вельмі сьціснутым; апроч таго, яна розьніцца маленькай дзюбай; ня вельмі доўгай і ня вельмі тоўстай, параўнаўча кароткімі нагамі, у якіх плюсна і пальцы пакрыты валасянымі пярынкамі, асабліва густа пакрытымі ўзімку, што часткай падобна да лапкі зайца-беляка. Кіпцюры ў яе даўжэйшыя, чым у іншых цецеравіных. Крылы яе сярэдняй велічыні; хвост кароткі, трохі закруглены.

Самец і самка хаця і мала розьняцца па велічыні (самец трохі больш за самкі), але значна розьніцца адзін ад аднаго ў апярэньні ўлетку: у самца пёра на шыі і на вальлю цёмна-іржавыя, больш чырвоныя брові; у самак-жа і на шыі і на вальлю апярэньні пад адзін колер з плячмі.

Летняе апярэньне наогул мае хвалявобразны малюнак, з чорнымі і жоўта-белымі папярэчнымі, вузенькімі, раўнамернымі палоскамі, вялікія махавыя пер'і белыя, як узімку; малыя махавыя з такімі-ж чорнымі і бела-жоўтымі папярэчнымі па пяру палоскамі, які і на сьпіне, пад жыватом і лапы белыя; ніжнія пер'і хваста чорныя, а верхнія, крыючыя з рознаколерным малюнкам, як і ўсё апярэньне верхняй часткі тулава птахі. Узімку курапатка зусім белая. Нават кіпцюры белыя. Толькі два чорныя века блішчаць з-пад чырвоных махравых брывой, ды чорная, нібы лакам пакрытая, дзюба; рулявыя пёры відаць толькі пры распасьцёртым хвасьце.

Пазнаць самца і самку ў зімні час можна толькі па велічыні, што даволі ня лёгка, бо розьніца ў велічыні вельмі малая.

У пераходны час зьмена пер'я, г. зн. з зімняга фарбу на летні,—апярэньне белай курапаткі робіцца рознаколерным і ўтварае ўражаньне ня толькі на ніколі ня бачыўшых белую курапатку, але і на тых, хто жыве ў мясцох распаўсюджаньня гэтае птахі.

### Спосаб жыцьця і асаблівасьць.

Месца жыцьця белай курапаткі мохавыя балоты. Улетку яна на поле ня выходзіць, аднак, шукаць яе трэба бліжэй да поля, па брусьнічніках і гонобоволі, а таксама каля выспаў, раскінутых па балотах. Яна вельмі любіць у сьпякоту купацца ў пяску, выбраўшыся на закраек выспы.

Там, дзе вельмі вільготныя валокністыя імхі з бессававітай травой (валасьняк) і рэдкі сасьняк бяз ягадніка, шукаць белую курапатку дарэмна, а калі і сустрэнуцца сьляды яе,—гэта выпадковая прагулка птахі.

Ня любіць белая курапатка і балотнага хмызьняку, г. зн. вельмі густога вялікага сасьняку з кустамі высокага багуньніку.

Ніколі ня трымаецца ня толькі ў сенажацях, мяжуючых з махавымі балотамі, але і ў закрытых, хай сабе гэтыя месцы нават на выспах, абкружаных махавымі балотамі, толькі сібірскай белай курапатцы спадабаюцца сенажаці.



На сьнягу застаюцца сьляды лыж.

Наша белая курапатка сурова трымаецца вызначанага месца з вясны да сьнягу. Самец добра ахоўвае заняты ім вучастак і прагане ўсякага прышляца. Широкія густа-апераныя лапкі дазваляюць ім хутка бегаць на топкіх мясцох і па мяккаму сьнегу. Паходка заўсёды адзінакавая: звычайна курапатка бяжыць дробнымі крокамі, сагнуўшыся, пры чым горбіць сьпіну і апускае хвост; бяжыць плаўна; у выпадку, калі яе ўвага будзе прыцягнута чым-небудзь асаблівым, яна ўзьбіраецца на купіну і аглядаецца адтуль навокал. Калі ёй пагражае небясьпека, яна бяжыць вельмі хутка з выцягнутай шыяй. Калі яна стаіць на купіне і азіраецца, дык выцягвае цела, наколькі магчыма падымае галаву і тады здаецца вельмі прыгожай. Палёт яе хуткі і прыгожы; ён больш падобен на палёт цяцеркі, чым шэрай курапаткі, але розьніцца як ад аднэй, так і ад другой. Пры ўзьлёце самец звычайна громка крычыць „тррр... та...та... та...“ Маўчыць толькі ў выключных выпадках. Самка ўзьлятае і ляціць моўчкі. У рэдкіх выпадках дае голас.

Белая курапатка ня толькі ўмее прарываць ходы ў сьнягу, каб дабыць сабе з-пад яго харчы, але ў выпадку небясьпекі ад драпежнай птахі, падае раптам уніз і зарываецца ў гэтым выратоўваючым яе пакрове.

У сьнягу яна шукае сабе схову ў дрэннае надвор'е; бывае, што можна знайсьці увесь статак, шчыльна прыцiснуўшыся адна да аднэй, яны зарываюцца ў сьнег, толькі ў некаторых высунуты на верх галоўкі.

У большасьці выпадкаў яны ня толькі ня трусьлівы, а наадварот, вельмі сьмелы. Часта самцы вядуць сябе вельмі сьмела: прабягаючы некалькі разоў міма паляўнічага або каго-небудзь іншага, яны не сьпяшаюцца схавацца. Пры гэтым самец заўсёды горбіцца, прысядае, ня вельмі хаваючыся ў багуньніку і час-ад-часу, выцягваючы шыю, высока падняўшы галаву, каб паглядзець, што робіцца навакол. Па пладавітасьці белая курапатка ня ўступае шэрай. Самка ў пачатку маю кладзе ад 15 да 20 грушавідных яек; трохі жаўтаватых з цёмнымі кропкамі. Гняздо робіцца на імху, па магчымасьці на больш сухім месцы каля сасонкі. Прыкрыцьцем служыць балотная расьлінасьць. Месца для гнязда звычайна так добра выбрана, што цяжка знайсьці яго.

У выседжваньні яек самец удзелу ня прымае, за тое вельмі шчыра нясе роль абаронцы: рэдка адлучаецца ад гнязда і папярэджвае самку пры ўсякай заўважанай небясьпецы; усякую жывёлу, якая набліжаецца да гнязда, ён сустракае сваім перасьцерагаючым крыкам: „каук, каук“, становіцца на купіну, выцягвае шыю, падымае галаву і пасьля кожнага басістага „каук“ трывожна дрыгае хвастом.



З першай парошай.

*(Працяг будзе).*

**Ф. А. Ляпін.**

## Стаўка на самацёк.

Рэчыцкія паляўнічыя павінны ліквідаваць прарывы, абвясьціць сябе ўдарнымі па здачы мяса, дзічы ў сталоўкі спажывецкага т-ва і пушніны ў сваю каапэрацыю.

### Выкарчаваць права-апартуністычную практыку.

Работа ў Рэчыцкім т-ве праходзіла самацёкам. Па ахове дзічы нічога не рабілася. Грыбоў і другой сыравіны зусім не загатаўлялася. Дагавор на пастаўку дзічы ня выкананы, у той час, калі была магчымасьць. Работы па выкананьню гэтага дагавору ніякай ня было разгорнута. Ня было сацспаборніцтва, ня было ўдарніцтва. Зараз у разгары загатоўкі зайцоў і пушніны, таксама ніякай падрыхтоўчай работы ня было. Прычынай гэтаму—стаўка на самацёк з боку райтаварыства.

### Разгарнуць самакрытыку.

Ва ўсёй нашай рабоце павінна адыгрываць вялікую ролю крытыка і самакрытыка. Але ў нас у таварыстве крытыка і самакрытыка разгорнута ня была. Ліквідацыя акруговых таварыстваў і аб'яднаньне двох раёнаў у адно т-ва—Лоўскага і Рэчыцкага—прайшло бяз удзелу мас. Ня было пастаўлена ні дакладу, ні справаздачы аб дзейнасьці былога праўленьня райтаварыства. А пагаварыць было аб чым. Былі і недахопы грошай.

### Культасьветнае працы няма.

Была ў нас раней добрая насьценгазэта. Праз насьценгазэту праводзілася культпраца: паляўнічыя вучыліся, як будаваць гаспадарку, змагацца з недахопамі, біць па бюрократах. Але з № 10-11 сталі на газэту насядаць асобныя таварышы, якія былі ўшчэмлены бойкімі допісамі. І на дзіва—газэта пагоршылася.

### Праўленцы вельмі кепска працавалі.

Напрыклад, старшыня Калеў. Ён часта бываў у камандыроўках у вёсцы. А што ён там рабіў? Замест папулярызацыі пяцігодкі паляўнічай гаспадаркі, ён займаўся п'янствам, а потым, напіўшыся, псаваў шрот і порах па парожніх бутэльках.

### Ліквідаваць прарывы.

Зараз пры таварыстве організаваны штаб кіраўніцтва сацспаборніцтвам. Заключан дагавор на сацспаборніцтва з Магілеўскім таварыствам. Трэба паставіць так сваю работу, каб гэты дагавор быў ня толькі выкананы, а і перавыкананы. **С. Кавачонка.**

## „Ухарь-купец“

Кажуць, што „гісторыя паўтараецца“. Хоць гэта і ня зусім верна, але пра той выпадак, аб якім я хачу тут апавядаць, яна і сапраўды паўтарылася. Гэта ў адносіне да гр. Асіповіча, прыказчыка з магазыну „Белкохотсаюза“, які ўспомніў не карысны для паляўнічай каапэрацыі выпадак, а шкодніцкае, нэпманскае спэкулянцтва.

Хто з менскіх паляўнічых не памятае магазыну „Белкохотсаюза“ 1925 г., калі ім загадваў ганебнай памяці спэкулянт Пятроўскі. Тады ў магазыне „Белкохотсаюза“ можна было купляць за адным прылаўкам тавары каапэрацыі, а за другім тавары Пятроўскага. Лепшыя стрэльбы, якія прыносіліся ў магазын на камісію ці на продаж, таксама купляліся Пятроўскім для сябе і потым прадаваліся ім у сябе на кватэры. Добрыя былі заработкі ў спэкулянта Пятроўскага, але яго злавілі, ашальмавалі і прагналі вон са службы. Магазын паляўнічай каапэрацыі быў аздаравіўся на некалькі год.

Але зьявіўся гр. Асіповіч, які і ў час Пятроўскага, як нам вядома, прыватным парадкам паспэкуляваў стрэльбамі, успомніў практыку і заработкі спэкулянтаў 1925 г. і, пралезшы неяк на службу ў магазын „Белкохотсаюза“ разам з іншымі служачымі заняўся спэкулянствам і шкодніцтвам.

Вось прыклад, якому пазайдросьціў бы нават... Пятроўскі.

Прыносіць нядаўна гр-ка Жукоўская (удава паляўнічага) у магазын „Белкохотсаюза“ добрую паляўнічую стрэльбу, каб прадаць яе ці паставіць на камісію. Асобы, якія стаяць за каапэрацыйным прылаўкам, агледзілі стрэльбу, ацанілі ў 400 руб. і параілі:

— Бачыце, грамадзянка, магазын „Белкохотсаюза“ стрэльбаў ня купляе (?!), а вы можаце паставіць яе на камісію, але на гэтым вы страціце 13 проц. камісыйных. Ведаеце, нясеце лепш стрэльбу дахаты, а мы прышлем да вас добрага купца. Скажэце ваш адрас і ўсё будзе зроблена.

Гр. Жукоўская, атрымаўшы добрую параду, вярнулася дахаты, а ў той-жа дзень увечары да яе зьявіўся „ухарь-купец“. Хто-ж, вы думаеце, быў гэты купец? Адгадаць няцяжка—гэта быў Асіповіч. З прычыны таго, што цана ўжо была вызначана ў магазыне „Белкохотсаюза“ торг скончыўся хутка. Гр. Асіповіч дастаў 100 руб. і даў Жукоўскай задатак, а праз некалькі дзён, заплаціўшы рэшту грошай, забраў 11-га лістапада стрэльбу за 400 руб.

Зразумела, што Асіповіч купіў гэту дарагую стрэльбу **не для сябе;** дзе яна зараз, нам невядома, як невядома і тое, колькі гр. Асіповіч зарабіў на гэтай шкодна-спэкулянцкай апэрацыі. Гэта яго „камэрцыйны сакрэт“. Здаецца нам, што вывад з гэтай гісторыі кожны зробіць сам і перш за ўсіх „Белкохотсаюз“.

Бруднай мятлой вон з паляўнічай каапэрацыі спэкулянтаў Асіповічаў!

**Невядомскі.**

# КРЫТЫКІ МАС.

## Аб адным заказьніку.

Два гады назад рыбаком в. Шыпатовічы і іншых паселішч пачало пападацца нейкае „зьвяр'е". Ведаючыя людзі пазналі ў іх баброў, гэтых каштоўных зьвяроў, якія зараз мала дзе засталіся. Чутка аб баброх хутка абляцела акругу і вось нейкая „асоба" праехала па Сожы на параходзе. Яна пільна ўглядалася ў ляндшафт вурочышча „Сьвенчы", якое знаходзіцца на берагох Сожу. Па чутках асоба выглядала баброў. У выніку гэтага выгляданьня ва ўрочышчы „Сьвенчы" зьявіўся заказьнік. Здаецца, трэба толькі вітаць гэтую добрую справу, але заказьнік знаходзіцца толькі на паперы ды на карце гомельскіх краязнаўцаў. Каля в. Шапатовічы зьявіўся крыж, а на ім подпіс „Бабры". Можа на карце былі і межы заказьніка, але ў самы заказьнік яны не дайшлі. Мясцовыя паляўнічыя спрачаюцца, дзе мяжа заказьніка і кожны тлумачыць па свойму, бо трэба адзначыць, што ў „Сьвенчах" шмат качак і жадаючых паляўнічаць за імі ні ў якім разе ня менш... Палююць у самым заказьніку, бо невядома, дзе ён пачынаецца, а дзе канчаецца...

Да гэтага часу за заказьнікам назірае толькі адзін чалавек, які лічыцца „загадчыкам бабрамі" і жыве ад баброў за 5 клм. Зараз перадалі нагляд за бабрамі Шыпатовіцкай сельячэйцы паляўнічых, якая павінна вылучыць двух вартаўнікоў для заказьніку. Здаецца, тут справа павінна была-б „закіпець", але ахова заказьніку папала ў ненадзейныя рукі, бо старшыня Шыпатовіцкай сельячэйкі Драбыжэўскі вельмі нядбайна адносіцца да паляўнічай гаспадаркі. Гэты старшыня сам ня ведае меж заказьніку і часам палюе ў „Сьвенчах".

Трэба таму, хто ведае заказьнік баброў ва ўрочышчы „Сьвенчы", дасканала правесьці межы паказанага заказьніка і праз друк ці сельячэйкі паведаміць аб гэтым паляўнічых.

Чачэрскаму райбюро паляўнічых трэба паклапаціцца, каб ахова баброў папала ў надзейныя рукі.

**Паляўнічы.**

## Самазабесьпячэньне.

Настаў сэзон паляваньня на качак, а шроту ў паляўнічых Жалвінецкага с/с ня было. Затое, калі ўжо са спазьненьнем прывязьлі шрот, дык Баброўнік Мікола разьмеркаваў яго так, што застаўся мяшок яму, а паляўнічыя ня ўсе мелі шрот.

Настала восень. 28 верасьня Баброўнік з сваімі прыяцелямі адчыніў паляваньне на зайцаў. Добра, што шротам забясьпечан. А от паляўнічыя іншыя, дык і ў тэрмін ня мелі з чым пайсьці на паляваньне.

Трэба паляўнічым вытурыць такога старшыню з т-ва.

**Паляўнічы.**

## У хаце-чытальні—куры ды парасяты.

Бешанковіцкае т-ва паляўнічых за два месяцы існаваньня на гаспадарчым разьліку нічога не зрабіла для ўздыму культуры. На сабраныя паляўнічымі грошы быў куплены радыё-прыёмнік, які і дагэтуль ляжыць у шафе, а жэрдкі для антэны валяюцца па двары. Сама антэна на полцы. Газэта ня выходзіць.

Старшыня праўленьня пасяліўся ў хаце-чытальні, заняўшы пад кватэру лепшы пакой з мэбляй хаты-чытальні. Апошнія пакоі забруджаны, там жывуць парасяты, куры і сабака, словам, увесь „індывідуальны сэктар" старшыні праўленьня.

Старшыня мала цікавіцца працай. Паляўнічыя ячэйкі яшчэ ня ўсюды арганізаваны. Паляўнічыя цэлымі днямі шукаюць старшыню праўленьня.

**Жан.**

## Ганебны ўчынак.

Каля в. Вілейка, Чаўскага раёну, зьявілася 4 дзікі. Паляўнічыя не ўцярпелі і ўтварылі паляваньне, на якім забілі адну сьвіньню. Дзесяць год ня было ў нас дзікаў, паявіліся зараз і то зьнішчаюць.

Зараз у Чаўскім раёне зьявіліся козы, трэба апасацца, каб і з імі ня было такое сьвінства.

**Г-оў.**

## „Дасьледваньне градусаў".

*(Бешанковіцкі раён).*

Старшыня камітэту сялянскай узаемадапамогі Мароз і старшыня рэўкамісіі Духовіч накіраваліся абсьледзаць трусятнік. Днём яны гэтага зрабіць не маглі, а прыйшлі ўночы, гадзіне а дзесятай. Але раней, чым папасьці ў трусятнік, яны нейкім чынам, заблудзіліся да кулака Акунёва і давай там учыняць досьледы, колькі градусаў утрымлівае „руская горкая" і наколькі дапасаваны іх арганізм да прыняцьця гэтай гарачай вадкасьці...

Пасьля такіх досьледаў яны прыйшлі ў трусятнік... Як доўга яны прасядзелі над досьледам у кулака Акунёва відаць з таго, што замест вікі з аўсом, у акце напісалі—„цімафееўка" і шмат іншых рэчаў пераблыталі зусім.

**Селянін.**

## Ваўкоў разьвялося.

У Плешчаніцкім раёне завялося шмат ваўкоў. Сяляне скардзіліся, што ўвосень ваўкамі парэзана шмат жывёлы. Паляўнічыя арганізацыі бязьдзейнічаюць. Калгасы, вёскі і саўгасы прымушаны былі браць дазволы ў міліцыі на стрэльбы, каб абараніцца ад ваўкоў. Гэта ў той час, калі ў раёне ёсьць каля 250—300 паляўнічых.

Сорам, таварышы паляўнічыя!

## Ваўкоў трэба зьнішчыць.

За апошні час часьцяком сталі паступаць скаргі на воўчае засільле ў Слуцкім раёне. Ваўкі прыходзяць амаль у горад. Асабліва яны палюбілі вурочышча Паліца.

А што робяць паляўнічыя? Нельга сказаць, каб яны змагаліся з гэтымі рабаўнікамі. У жніўні там адбылася аблава, але большасьць паляўнічых не зьявілася, і аблава дала кепскія вынікі.

**Ц.**

## Трусы кормам не забясьпечаны.

*(Бешанковіцкі трусятнік)*

На наш трусятнік мала звяртаецца ўвагі як з боку праўленцаў т-ва паляўнічых, асабліва старшыні т. Сачыўкі, так і з боку РВК і інш.

Такім чынам трусы на зіму чуць не засталіся бяз корму. Ня было ні караньплодаў, ні аўса і чаго-небудзь іншага. Ня раз трусаводу прыходзілася бегаць па хутарох каб дзе-небудзь знайсьці корму. Старшыня праўленьня Бешанковіцкага т-ва паляўнічых т. **Сачыўка** думае, што трусы—гэта такая жывёла, што можа разводзіцца абы ў якіх умовах. Ні сеткі, ні дошак, ні чаго іншага для трусятніка не набылі. А калі была атрымана фанера, дык яе расьцягнулі, бо ня было догляду. У дрэнным становішчы знаходзяцца і справы паляўнічага т-ва. Калі старшыня паехаў на курсы пушной справы ў Менск, дык усю справу перадаў жонцы. Тая сама прадавала, сама весіла паляўнічыя прылады, атрымлівала грошы і не запісвала іх па кнігах.

Было атрымана для трусятніка пяцьдзесят пудоў аўса, а выдана ў трусятнік толькі сорак, 10 пудоў аўса Сачыўка пакінуў для сваіх курэй ды парасят.

Трэба сказаць, што ва ўсіх гэтых махінацыях Сачыўку дапамагае сакратар с. с. гр. Духовіч.

Трэба гэтую кампанію шкоднікаў выявіць і паказаць паляўнічым масам усе іх прадзелкі.

**С. Н.**

## „А воз і зараз там".

У Грэскім раёне паляўнічай гаспадаркай ніхто ня кіруе. Ад таго там шмат шкоднікаў (ваўкоў, бадзячых сабак і інш.), браканьераў і вельмі мала дзічы. З шкоднікамі там змагацца ня прывучаны, але за тое качак набіць палкай яшчэ за месяц да адчыненьня паляваньня — грэскія браканьеры — майстры на гэта.

Што-ж робіць раённае т-ва для ліквідацыі гэтых прарываў?

А вось што, Юркевіч, старшыня праўленьня, за бутэльку скрывае браканьераў. Аблавы тут не ў пашане. Браканьеры маюць стрэльбы, а міліцыя нічога ня робіць, бо райтаварыства гэтым ня цікавіцца, сходаў паляўнічых не праводзіцца.

Пры такім становішчы, вядома, Грэскім паляўнічым, калі яны не аздаровяць сваё т-ва, а „Белкохотсаюз" не дапаможа ім у гэтым, прыдзецца ставіць на камісію стрэльбы за адсутнасьцю дзічы.

**Ш—віч.**

## Дзе знайсьці старшыню.

Такія пытаньні чуюцца ад паляўнічых **Нараўлянскага** раёну. Трэба пушніну здаць, купіць набояў, перарэгістравацца, выпісаць часопісь, а старшыні т-ва паляўнічых Нараўлянскага раёну не знайсьці. Паляўнічыя сланяюцца туды-сюды ды лаюцца ад такой работы праўленьня т-ва.

І гэта ўсё робіцца ў той час, калі на пушныя нарыхтоўкі зьвернута асабліва вялікая ўвага ўрадам.

**Н. П.**

## Запаведнік не ахоўваецца.

А што робіць варта запаведніка? Яна падкуплена паляўнічымі чаркай гарэлкі і добрай закускай. От ад таго паляўнічыя вёсак Ускром'я, Бабцы, Кальнік і Каралін, якія мяжуюцца з запаведнікам, як толькі трохі замерзнуць рэчкі, больш нікуды і ня ідуць на паляваньне, як толькі ў запаведнік. І зьнішчаецца такім чынам багацьце запаведніка.

**С.**

## Заслаўскае т-ва зрывае пушныя нарыхтоўкі.

За апошні час т-ва вельмі дрэнна стала задавальняць паляўнічых бояпрыладамі. Шрот мяшкамі ляжыць у канцэлярыі, а паляўнічым не даюць: кажуць—дай пушніну, мяса дзічы. Чым-жа яе здабыць? Раней дайце шроту, хоць-бы па паўкілё, а потым патрабуйце пушніну і мяса дзічы.

Наогул, там справы кепскія. Яшчэ два месяцы назад адбыліся перавыбары, а спраў т-ва новы старшыня ня прыняў і дагэтуль. Ёсьць шмат жадаючых уступіць у саюз паляўнічых, а т-ва не працуе.

Заслаўскае т-ва паляўнічых зрывае пушныя нарыхтоўкі.

**К. К.**

## Бюрократ першай маркі

*(Бешанковіцкае т-ва).*

Наш старшыня праўленьня т-ва паляўнічых, ён-жа і судзьдзя Бешанковіцкага раёну гр. Сачыўка ня цікавіцца справамі т-ва.

Прыехаўшы з курсаў пушнай справы з гор. Менску, ён перш-на-перш зацікавіўся сваёй асабістай гаспадаркай. Ён не пацікавіўся, як ідуць справы ў трусятніку, у т-ве паляўнічых і г. д.

29 кастрычніка „кампанія Зінгера"—судзьдзя Сачыўка і Качан Ляксей з стрэльбамі за плячмі зьявіліся ў трусятнік і давай прыдзірацца да трусавода Зарына і яго памочніка, прышываючы ім „ліпавыя справы". Сачыўка стаў спаганяць асабістую злосьць на трусаводзе Зорыне...

**Селянін.**

## Старобін раўняецца па Заславу.

Наша Старобінскае райтаварыства не клапоціцца аб пушных нарыхтоўках і не задавальняе паляўнічых бояпрыладамі. Напрыклад, паляўнічы Рыбко Мікола з в. Чытовічы некалькі разоў хадзіў за порахам у т-ва і так, здаецца, нічога ня выхадзіў. Паляваньне ў разгары, а з імі і пушныя нарыхтоўкі, а паляўнічыя бяз пораху і шроту ляжаць на печцы.

**Алесь Курловіч.**

## Ваўкі выюць, паляўнічыя сьпяць.

Нельга сказаць, каб у нашым Азарыцкім раёне ня было ваўкоў. Яны нават сярод дня, амаль у вёсках, душаць кароў. А паляўнічыя нашы, дык і забыліся, у якім годзе рабілі аблаву. Сьпяць нашы паляўнічыя, а пабудзіць некаму.

**Казакевіч.**

# На аб'езчыкавых загонах.

Была зіма. У сьветлую, студзёную, марозную ноч, сьнег рыпеў пад нагамі. Неба ўсыпана зорамі, якія сьвечкамі гарэлі на пушысты'м сьнягу. Ваўчыца—здаравенная шэрая ваўчыца—сланялася каля хмызьнякоў—яна была галодная і злосная. У гэтую ноч ваўчыца доўга ганялася за зайцам, але заяц на сваіх гнуткіх нагах даваў такія скачкі, што ўсё стараньне і ўпартасьць ваўчыцы прапалі марна. Заяц столькі нарабіў скідак *), петляў і кругоў, што ваўчыца літаральна не заўважыла, як выйшла на поле. Тут заяц такімі вялікімі скачкамі пайшоў наўцёкі па роўнаму сьнегу, што ваўчыца, наколькі яна ня была галодная, зразумела ўсю бязгрунтоўнасьць ганяцца за зайцам.

Тады ваўчыца, пазнаўшы сваю бясьсільную адзінокасьць і суровую долю вышла на дарогу, села на заднія лапы, і, павярнуўшы морду да лесу, сумна, сумна завыла. І вой гэты пакаціўся рэхам па студзёнай сьнежнай пустошы. Ваўчыца забірала ўсё вышэйшыя і вышэйшыя ноты, заціхала, здаецца, зусім, потым пачынала зноў. Пры гэтым у яе плачы песьні выказвалася і злосьць на сваю воўчую долю, і гора, і пагроза да ўсяго жывога за тое, што яна ўжо некалькі дзён ня бачыла мяса—такога смачнага, прамёрзлага мяса! Ваўчыца сядзела і выла і гэта выцьцё—плач-песьня пракаціўся праз вякі, праз эпохі, яшчэ адтуль, калі і чалавек стаяў на такой самай грані культуры, як і зьвер, і воўкам выў ад голаду. Ваўчыца круціла хвастом і выла, пад канец сваёй песьні, на самых высокіх нотах, б'ючы хвастом па сьнягу, а гукі гэтага завываньня—плачу-песьні, наганяючыя зоолёгічны страх на чалавека, замярзалі ў паветры і ледзянымі пухіркамі каціліся ў студзёную сьнежную пустош і там, далёка-далёка нараджалі новыя гукі.

Так цягнулася мінут дваццаць. Потым ваўчыца заціхла і стала прыслухоўвацца да начной цішы. Раптам яна навастрыла вушы. Яна ўлавіла нейкі асобны гук, зусім не падобны да тых гукаў, якія чутны з вёсак, прыемны да яе слыха гук. Гэты гук каціўся насустрач яе песьні адтуль, з лесу, з марознай няпрыветлівай пустошы. Тады ваўчыца абарвала сваю песьню і міжвольна пайшла на гэтыя гукі.

Сьнег рыпеў пад нагамі, а ваўчыца ішла ўсё далей і далей на поўнач, на невядомыя ёй гукі. Зноў зьявіліся ў яе організьме пачуцьці, якія бываюць кожны год у ваўчыцы ў гэту пару і ваўчыца ўлавіла ў гуках, якія былі адказам на яе песьню, родныя ноты. Ваўчыца не магла не падпарадкавацца гэтым пачуцьцям і мэтр за мэтрам пачала скарачаць адлегласьць, якая падзяляла яе ад гэтых гукаў.

На дзяляніцы ваўчыца ўбачыла дзьве жоўтыя бліскучыя кропкі, а потым яшчэ дзьве і яшчэ, і хутка ўлавіла сваім вострым нюхам цяплыню жывых цел, у якіх пазнала нешта роднае, сваё, воўчае. Тады ваўчыца села, завіляла па сьнягу хвастом і лёгка піснула. Зараз-жа да яе пачалі набліжацца гэтыя жоўтыя кропкі, а потым і цэлыя шэрыя цені вырасьлі перад ёй. Адзін праз аднаго яны кінуліся да ваўчыцы, але нічога страшэннага ў іх постацях для ваўчыцы ня было і яна не ўцякала, а наадварот—апусьціўшыся на пярэднія лапы, пачала жартліва віляць хвастом. І ваўчыца пазнала ў шэрых ценях сваіх братоў..

Першым да ваўчыцы падбег і абнюхаў стары вялізарны воўк. Ваўчыца завіляла хвастом і лізнула ваўка у вуха, потым жартліва прыгнулася да зямлі на пярэдніх нагах, скокнула ў бок і пабегла. За ёй пабег стары воўк, а потым адзін за адным і ўся чарада, захоўваючы між сабой інтэрвалы ў залежнасьці ад сілы і ўзросту. Адзін з маладых ваўкоў вельмі блізка падыйшоў да ваўчыцы, завіляўшы хвастом у адзнаку сяброўства, але ў той-жа момант быў зьбіты старым ваўком, які першы падыйшоў да ваўчыцы і ўся чарада накінулася на яго. Малады воўк быў пакараны за недазволеную сьмеласьць і, зьмірыўшыся з сваёй доляй, пашоў ззаду стаі з разарваным у шматкі вухам. З той пары стары воўк ні на крок не пакідаў ваўчыцу.

Аднаго разу ён паспрабаваў лізнуць ваўчыцу ў плячо. Ваўчыца не раззлавалася і завіляла хвастом у адзнаку таго, што гэта ёй вельмі падабалася. Тады воўк пасьмялеў і, забегшы наперад ваўчыцы, лізнуў яе ў мысу. Ваўчыца прысела ад радасьці. У той час яе погляд быў гарачы, поўны ласкі і каханьня і ваўчыца лізнула ваўка ў правае вуха.

Адзін раз ваўчыца спынілася абнюхаць нейчы сьлед на сьнягу, і чарада спынілася, як па камандзе, толькі адзін, яшчэ зусім малады, нявопытны воўк вельмі блізка падбег да ваўчыцы, парушаючы законы галоднай чарады. У той-жа міг стары воўк зноў накінуўся на апошняга і сільным ударам грудзей зьбіў яго з ног. Малады воўк пакаціўся па сьнягу з перакушаным рабром і пакалечанай нагой, заліваючыся піскам ад болю, а чарада накінулася на яго і разарвала.

Быў канец лютага. Падаў камамі сьнег. Вецер завываў у ваколіцы, лез у шчыліны драўляных пабудоў і зьмятаў у сугробы сьнег.

Васіль Гарбузёнак быў на калядах ў цёшчы. Цёшча пякла ячменныя бліны і гарачымі частавала зяця. Перад ад'ездам Гарбузёнка дадому шурын Нікіпар Карнавух прынёс пляшку самагону. Было ўжо пасьля поўдня, калі Гарбузёнак і Карнавух прыняліся за самагон. І чым ніжэй апускалася вадкасьць у пляшцы, тым вышэй станавіўся настрой у Гарбузёнка ад самагоннай пары. Калі сваякі скончылі з самагонам, зьмрок агарнуў будынкі. Сьнег не пераставаў падаць цудоўна маленькімі белакрылымі мятлікамі.

Васіль Гарбузёнак запрог кабылу ужо ў цемені. Васіль быў вельмі п'яны, спатыкаўся і ледзь трымаўся на нагах, а рукі браліся не за тое, за што трэба.

— Ну, Васілёк, глядзі-ж, даражэнькі, Макрынку! Глядзі, каб яна добра апраналася, не прастудзілася!—наказвала цёшча зяцю, а ў гэты час шурын Нікіпар клаў на воз зяцю ў мяшку сьвінку ў пасаг Макрыне.

— Ты, Васілёк, едзь памалу, а то сьвінка добрая, будзе турбавацца і пішчаць,—не супакойвалася цёшча.

---

*) Скідка—на паляўнічай „мове" азначае месца, дзе заяц ідзе проста, а потым адным вялікім скачком пад простым кутом скідае ў бок.

Пятля—калі заяц некалькі разоў перасякае свой сьлед.

— Добра, матка, не беспоко-о-й... ік...—адказаў п'яным языком Васіль.

Васіль выехаў за вёску. Кілёмэтры за два ад вёскі з вакон будынку калгасу „Чырвоны бор" ліўся сьвет электрычнасьці. Ад выпітага самагону ў Гарбузёнка было весела на душы. Яму здавалася, што кабыла не бяжыць, а імчыцца на крылах між аблакоў, а сам ён, Васіль Гарбузёнак, удала ажаніўшыся на дачцы кулака Яўмена Мікульчыка і, ад таго забагацеўшы, ляціць, як у казцы царэвіч-Іван. Калі ён параўняўся з калгасам, адтуль несьліся мэлёдычныя гукі канцэрту, які быў пастаўлены ўласнымі сіламі моладзі калгасу. Хаця Гарбузёнак зараз і страціў усякую сувязь з сваімі таварышамі, увайшоўшымі ў калгас, усё-ж такі яго пацягнула туды сьветлае жыцьцё ў калгасе, якое выпірала праз кожную шчыліну калгасных будынкаў. У Васіля зьявілася бадзёрасьць часткай ад выпітага самагону, а часткай ад дасягнутых посьпехаў калгасьнікаў. Васіль быў ня дурны хлапец, добры работнік, вырас у беднаце і душа яго была здольна радавацца посьпехам яго таварышоў. І Васіль запеў песьню.

Хутка Васіль мінуў калгас. Бадзёры настрой не пакідаў яго і за калгасам. Каб было яшчэ весялей, ён ударыў пугай кабылу. Кабыла ірванулася ўперад і каб ня лейцы, за якія трымаўся Васіль, ён зьляцеў-бы з саней ад нечаканасьці. У гэты момант ён неяк прыціснуў парасё, пра якое ён зусім быў забыўся і апошняе піснула. У п'янай галаве Васіля радзілася злосная думка на парасё і кабылу. Розум перадаў гэтую думку сэрцу, а апошняе, токам электрычнасьці разаслала яе па ўсіх жылах і Васіль ударыў пугай кабылу і па мяшку з парасём пугаўём. Парасё піснула яшчэ мацней, а Васіль яшчэ горш зазлаваў. Тады Васіль часьцяком стаў частаваць пугаўём парасё, ад чаго апошняе пасьля кожнага ўдару пішчэла.

Раптам кабыла ірванулася ў бок і стала на дыбы. Васіль кінуў жарты з парасём і, нацягнуўшы лейцы, моцна ўдарыў пугай кабылу, прыглядаючыся да кустоў. Кабыла кідалася ў бакі, хрыпела, а ўперад ня ішла, нібы перад ёй была ня гладкая дарога, якую Васіль добра ведаў, а бяздонная прорва.

— Нічога ня зробіш, трэба зьлезьці,—пацьвярдзеў Васіль.

Васіль ня мог зразумець упартасьці кабылы.

У гэты час з правага боку дарогі між кустоў мільганулі дзьве бліскучыя кропкі, потым яшчэ дзьве, і яшчэ. Васілю ня раз прыходзілася бачыць гэтых зьвяроў і Васіль ня струсіў. Трымаючы кабылу за вобраць, ён моцна сьвіснуў у пальцы. Бліскучыя кропкі спыніліся, але не ўцякалі. Тады Васіль крыкнуў і залопаў рукамі па кажуху. Ваўкі таксама сталі на месцы, прыглядаючыся да таго, што робіцца на дарозе.

Кабыла вырывалася з рук Васіля, кідалася ў бакі, падымалася на дыбы. Васіль стараўся супакоіць яе, крычаў, стукаў замёрзлым ботам па аглоблі саней і лопаў рукамі аб кажух. Ваўкі паўзком пачалі выбірацца між кустоў на дарогу.

Як Васіль ня быў моцны духам і целам, тут у яго „адкруцілася гайка", але ён сілай волі прымусіў сябе дзейнічаць. Адным лёгкім скачком ускочыўшы ў сані і, схапіўшы лейцы, ён пусьціў кабылу. Кабыла паімчалася па сьнежна-пясчанай пустошы, нібы падхопленая торнадо (віхрам), спустошыўшым выспу Гвадалупу. Калі Васіль агляну́ўся назад, цэлая шайка ваўкоў ішла сьледам за санямі, нібы акулы за караблём у водах акіяну. Васіль яшчэ больш папусьціў лейцы, каб даць магчымасьць кабыле разьвіць максымальную хуткасьць. Але ўсе стараньні кабылы выратаваць сябе і свайго гаспадара былі дарэмны, бо ў гэты момант стары вялізарны воўк, зрабіўшы нябачна вялікі скачок на дарогу, схапіў яе за горла. Вялізарная куча шэрай масы пакацілася разам з санямі па сіняватым сьнягу. Зламалася аглобля, нешта моцна захрыпела ў гэтай шэрай масе. Васіль на некаторы момант аслупянеў і яму здавалася, што перадсьмяротны хрып кабылы і трэск зламанай аглоблі ішоў аднекуль здалёку. Але ён хутка схамянуўся. Ваўкі лезьлі на сані, трэба было абараняцца. Васіль схапіў мяшок з парасём і кінуў у ваўкоў і ў гэты-ж момант парасё было разорвана на ляту, нібы яго і ня было на сьвеце. Вялізарнейшая шэрая цень лезла проста на Васіля. Васіль, сьцяўшы зубы, моцна ўдарыў цень пад сківіцы наском бота. Цень пасунулася і ўткнулася носам у сьнег. Па бакох, сьпераду, ззаду лезьлі такія самыя цені. Васіль прыпамятаў аб дошках на санках. Ён моцна ўдарыў дошкай адну цень па галаве, дошка зламалася і ў той-жа момант ваўчыца, зрабіўшы вялізарны скачок уверх, схапіла Васіля за горла, ён паваліўся ў сьнег.

Назаўтра ў калгасе „Чырвоны бор" адбылася такая гаворка:

— Ну, таварышы, мужчынам трэба ісьці прачысьціць сьцежкі і адкідаць сьнег ад хлявоў, — сказаў старшыня калгасу Даўгавязаў Зьмітрок.—А ты, Дзюс, калі хочаш, ідзі паляўнічаць: пароша на яць!— дадаў ён.

Дзюс—год шэсьцьдзесят мужчына: высокі, дзябёлы, стройны, трохі сіваваты. Дзюс—гонар калгасу. Ён першым запісаўся ў калгас, ён першы быў яго арганізатарам і ён першым і лепшым зьяўляецца зараз калгасьнікам. Добры працаўнік: каваль, сталяр, рымар і пчаляр. Без яго, здаецца, не існаваў-бы калгас. Ён служыць прыкладам для іншых і захапляе іх сваёй працаздольнасьцю.

У вольныя часы садзіцца за кнігу ці ідзе паляўнічаць, але ніколі ня п'е гарэлкі. Дзюс уладае вострым гумарам і зьяўляецца любімцам між калгасьнікаў, а між паляўнічых слыве за добрага стральца і знатака зьвера.

Мужчыны адкідалі лапатамі сьнег, а дзядзька Дзюс са стрэльбай за плячыма ішоў дарогай у кірунку вёскі Слабодкі, штомінутна праваліваючыся па пояс у сьнег, які выпаў за ноч. Раптам ён разам з нагой вывалак з сьнегу пугу, але не надаў гэтаму ніякага значэньня і, уткнуўшы пугу ў сьнег, пайшоў далей. На Аб'еэджыкавых загонах, каля „Швэйдавага логу", дзе дарога з поля раптоўна паварачвае ў лес і шырокай палосай праразае яго кілёмэтраў на пяць, між дробных прыземістых сасонак і кустоў альшэўніка, Дзюс заўважыў у сьнезе зламаную аглаблю, але і гэтаму таксама не надаў ніякага значэньня, працягваючы бяз прыпынку свой шлях, бо было ўжо каля дзесяці гадзін дню і Дзюс і не хацеў траціць часу на разважаньні. Але не дайшоў Дзюс да гэтай аглоблі, як разам з нагой вывалак з сьнегу зьмёрзлыя камкі крыві. Раней ён ня мог зразумець, у чым справа. Дзюс пачаў нагой разгортваці сьнег. Выкапаў шапку. Потым на нешта цьвёрдае наступіў нагой, ударыў і вывалак разарваны бот, з якога

віднелася пасінелае, замерзлае, чалавечае цела. Дзюсу неяк стала не па сабе. Па сьпіне пабег холад.

Тады Дзюс падыйшоў і спрабаваў вынуць з сьнегу аглоблю, але разам з ёй закраталася нешта пад сьнегам. Дзюс яшчэ мацней абедзьвюма рукамі пацягнуў аглоблю і з сьнегу, разам з ёй, паказаліся сані—зусім цэлыя новенькія сані.

— От, каб конь можна было-б запрэгчы і ехаць,— падумаў услых Дзюс.

У наступны момант Дзюс знайшоў абгрызеныя ваўкамі шкілеты чалавека і каня, а потым сьляды ваўкоў ад трапезы ў лесе, па якіх ён трохі прайшоў да лесу, узяў кірунак і, каб не забыцца, прымеціў кірунак па аднэй верхавіне елкі.

Дзюс пасьпешна бег да дому, абдумваючы плян правядзеньня аблавы.

— Так... я забягу туды, потым разам з ім... сказаць усім паляўнічым... Ніхто не адмовіцца...—разымшляў услых Дзюс.

Паколькі ваўкі былі вельмі пад'еўшыя, Дзюс ведаў, што яны заляглі недалёка, і аблаву, што-б там ні было, трэба рабіць зараз-жа.

Каля калгасу Дзюс сустрэў Пецьку Заіку, сына індывідуальніка серадняка Халімона Заікі, гадоў дваццаць двух хлапца, які разам з бацькам паляўнічыць.

— Што, бацька дома. Гавары хутчэй!—запытаў Дзюс.

— Дома.

— Ідзі хутчэй дадому, бяры стрэльбу і ляці да мяне, а бацьку скажы, каб забраў усіх паляўнічых і вёў у лес на „Аб'езчыкавы загоны". І скажы так, хто ня пойдзе, я сам прыду і выдаўлю з яго начынку бяз усякіх міліцый і сельсаветаў.

Дзюс ведаў, што толькі такім парадкам можна арганізаваць хутка аблаву і часьцяком дапасоўваў у неабходных выпадках такі мэтад.

— Усё гатова,—сказаў Пецька, прыбегшы з ламанкай.

Заіка быў здаровы, разьбітны і моцны хлапец. Дзюс пакладаўся на яго, а таму і выбраў яго сабе ў памочнікі.

— А цяпер ня пытайся ў мяне нічога. Бяры за канец от гэтыя сьцяжкі і наматвай на катушку.

Пецька здагадваўся ў чым справа і нічога ня пытаўся, хаця яго вельмі цікавіла, чаму такая гарачка. Хутка з сьцяжкаамі справа была скончана і Дзюс з Заікам выйшлі ў напрамку „Аб'езчыкавых загонаў".

— А цяпер я табе скажу:—ваўкі—цэлая чарада ваўкоў—сёньня ўначы разарвалі Васіля Гарбузёнка, ведаеш яго? Ну, дык вось. Разарвалі яго і кабылу. Ваўкі пашлі ў кірунку „Асінаўскіх хмызьнякоў", туды, пад самае балота і там, вядома, заляглі. От да чаго ўся гэта гарачка!—скончыў Дзюс.

На „Аб'езчыкавых загонах" Дзюс пакінуў знак для апошніх паляўнічых, напісаўшы палкай на сьнягу: „чакайце тут", а сам з Заікам пайшоў па сьлядох ваўкоў.

— Толькі ціха!—загадаў Дзюс, калі ўвайшлі ў лес.

Між дробных сасонак цудоўна ўбраных белымі—як цукар і мяккімі—як вата хлоп'ямі сьнегу, вілася патаемная сьцежка ваўкоў. Лес стаяў ціха і паляўнічым трэба было напружваць усю сваю ўвагу, каб не сагнаць чуткіх зьвяроў. Дзюс з лёгкасьцю пятнаццацігадовага хлопца шмыгаў між сасонак, пералазіў цераз вывараты, абыходзіў кусты, а за ім не адставаў Пеця Заіка.

— От тут яны і павінны быць,—шэптам сказаў Дзюс.—Глядзі-ж: поўная цішыня, як найбольш увагі! Ты павінен разумець мяне на паўслове, калі патрабуецца!

Пецька кіўнуў.

— Чакай тут. Я прыду і скажу, што рабіць.

І Дзюс зьнік за дробным, шчацінiстым ельнікам. Ваўкі не маглі далёка ісьці. Поўныя жываты патрабуюць спакою. Ваўком неабходна паляжаць. Пасьля такой вялізарнай і сытнай трапезы ваўком хацелася піць і яны на краю бугарка, у густым альховым хмызьняку напіліся з крыніцы.

Ваўчыца першая падышла да крыніцы. За ёй худы воўк, але самы дзябёлы з чарады воўк схапіў за шыю апошняга і адкінуў яго ад крыніцы. Усьлед за ім падыйшоў здаравенны прыгожы пераярак, потым маладая ваўчыца, потым трохгадовы, сярэдняй вялічыні і сілы воўк і так усе па парадку ў залежнасьці сілы і ўзросту.

Ад крыніцы ваўкі зноў вярнуліся ў ельнік. Першай ішла ваўчыца, за ей стары воўк. Каля вялізарнай яловай выварацi ваўчыца спынілася і лізнула ваўка ў мысу. Воўк абнюхаў ваўчыцу і піснуў. Вочы яго гаварылі аб каханьні і адданасьці. Ваўчыца павярнулася да яго і стала доўга, ласкава лізаць правае вуха, нос і вочы ваўка, потым сагнулася і падлезла пад вываравць. За ёй палез стары воўк.

Дзюс працягваў абыходзіць курган, аброслы дробным густым іглістым ельнікам, над якім дзе-ні-дзе ўзвышаліся кубацістыя кляны ці дубы. Калі Дзюс дайшоў да таго месца, дзе ваўкі пераходзілі да крыніцы, ён стаў ужо сумнявацца, што яны заляглі ў ельніку. Але, прайшоўшы крокаў трыста, Дзюс зноў перасек сьляды ад крыніцы ў ельнік. І Дзюс узрадаваўся. Дзюс абыйшоў курган і выходных сьлядоў больш не знайшоў. Тады ён пабег за сьцяжкамі і Пецькай Заікам.

— Ваўкі тут! — заявіў Дзюс. — Трэба разьвесець сьцяжкі.

Пеця згадзіўся кіўком.

І Пеця пайшоў па сьлядох Дзюса, навешваючы на кусты кавалкі ярка-чырвонай тканіны, начэпленай на вяроўку, а Дзюс сьледам за ім выбіраў месцы для стралкоў і ўтыкаў у сьнег палкі.

Работа была скончана за паўгадзіны.

— Ну, усё добра,—вольна ўздыхнуў Дзюс.—Застаецца толькі ўзяць паляўнічых і пачаць гнаць, што мы зараз і зробім.

Паляўнічыя былі ў поўным зборы на „Аб'езчыкавых загонах". Тут быў Страмок Мікіта, бацька Пеці Заікі, Лапа Пракоп, Дубіна Рыгор—здаравенны, высокі мужчына, як дуб, і гультай, як сьвяты, і Валодзька Крываногі—малы, вяртлявы, піскліві, з тонкімі крывымі нагамі, якія пры хадзе чапляліся ня толькі нага за нагу, але растаўляліся так, што праз іх ільга было-б праехаць з калёсамі.

Валодзька быў вельмі трусьлівы і, калі падыйшлі да паляўнічых Дзюс і Пеця, беспакойна з аглядкай назад, забегаў вачыма, а Рыгор Дубіна сядзеў на сьнягу без адзнакаў жыцьця. Ён прайшоў два кілёмэтры і страціў жыцьцёвую дзеяздольнасьць.

Усё гэта зараз-жа заўважыў і запамятаваў Дзюс, паглядзеў на Пецю. Той ухмыльнуўся.

— Ваўкі абкладзены, аб усім апошнім, што здарылася ў мінулую ноч, там, дзе дарога крута паварачвае ў лес з „Аб'езжчыкавых загонаў“, я думаю, вы, таварышы, ужо ведаеце?—зьвярнуўся з кароткай прамовай Дзюс да паляўнічых.

Валодзька „качарга“, як яго звалі ў вёсцы, зараз-жа азірнуўся назад і аглядзеў шлях адступленьня, а Дубіна не падаў адзнакаў жыцьця.

— Гутарка кароткая. Трэба пачынаць аблаву, але я бачу нешта хоча сказаць Валодзька?

Дзюс нарочна назваў яго сапраўдным імем, хоць гэтага ніхто не рабіў.

— Я не пайду!—крыкнуў Качарга.—Я яшчэ не хачу паміраць.

Паляўнічыя ўсьміхнуліся і паглядзелі адзін на аднаго.

— Я таксама, у мяне баліць бок,—паказаў адзнакі жыцьця Дубіна.

— Аблава на ваўкоў—грамадзкая справа і кожны паляўнічы, кожны грамадзянін павінны прымаць актыўны ўдзел у гэтай справе. Калі ты, Дубіна і ты Валодзька... Калі вы хочаце быць паляўнічымі, вы павінны ўдзельнічаць у аблаве, таксама, як гэта робяць і ўсе іншыя...

З гэтымі словамі Дзюс накіраваўся да Рыгора з пагрозаю.

— Я пайду, калі пойдзе Качарга.

— Ты нават ня можаш назваць чалавечым імем свайго сябра!—навучаючы сказаў Дзюс.

Качарга яшчэ раз паглядзеў назад на дарогу, але шлях да адступленьня быў адрэзаны Пецькам Заікам. Качарга прызнаўся:

— Я пайду, толькі, каб быць разам з ім.—Ён паказаў на Пецю.

Дзюс расставіў стралкоў. На самае лепшае месца, дзе па яго думцы павінны былі прайсьці ваўкі, ён паставіў Пецю Заіку. На другое, менш надзейнае месца,—яго бацьку; потым Лапу Пракопа і, каб зачыніць левы флянг, крокаў на пяцьсот ад іх—Дубіну, а сам з Качаргой пашоў у загон.

Першы стрэл пачуў Дзюс на нумары Рыгора. Дзюс толькі ахнуў ад такой нечаканасьці. Ён зусім не меркаваў, што ваўкі пойдуць тым бокам кургана. Усе надзеі Дзюс ускладаў на нумары Пеці Заікі, яго бацькі і Лапы Пракопа. І Дзюс кінуўся з усіх ног у левы бок, каб ня даць ваўком прарвацца назад, бо, па яго думцы, Рыгор Дубіна яшчэ ня здольны адстаяць гадзіну на нумары, каб не заснуць.

Дзюс бег і крычаў, загадаўшы тое самае рабіць Качарзе, які баяўся адставаць ад Дзюса далей, чым на крокаў пяцьдзесят. Але хутка Дзюс пачуў два стрэлы на надзейных нумарох, якія зьліліся амаль што ў адзін стрэл і рэхам пакаціліся па лесе.

Усьлед за гэтым—яшчэ адзін стрэл і яшчэ, ужо трохі лявей, відаць на нумары Лапы Пракопа.

Толькі цяпер Дзюс вольна ўздыхнуў. Дзюс ведаў, што гэтыя хлопцы маху не дадуць і ён пайшоў памалу, забіраючы левы флянг з тым разьлікам, каб завярнуць ваўкоў, калі яны пайшлі на левы, адчынены флянг.

Хутка Дзюс з Качаргой выйшлі на нумар Дубіны. Дубіна, к вялікаму зьдзіўленьню Дзюса, быў захоплены аблавай і стаяў за малай густай елкай, пільна ўглядаючыся ў ельнік, а каля яго ляжаў воўк, з роту якога капала пачарнеўшая кроў і расчынялася ў чырвоную фарбу па сьнягу.

— Маладзец Рыгор, так і трэба!

Рыгор зьвязаў ногі ваўку і прасунуўшы палку праз іх, вольна, бяз аніякага напружаньня, ускінуў ваўка за плечы, нібы гэта быў ня воўк, а гумавы мяч, напоўнены паветрам. Ва ўсіх рухах Рыгора адчувалася волатаўская першабытная сіла.

— З такой сілай можна горы вярнуць,—думаў Дзюс.

Лапа Пракоп забіў аднаго маладога. Пеця Заіка маладую ваўчыцу і схудалага, яшчэ ня выліняўшага ваўка. Бацька Заікі—даволі здаровага ваўка, трохгадовага ўзросту.

На белым палатне сьнежнай пустоты варушыліся чорныя кропкі. Іх твары гаварылі аб вялікай радасьці, а ўсе рухі былі бадзёрымі, ня гледзячы на тое, што кожны з іх трымаў у руках канец палкі, на якой, як вулей, вісела шэрая туша ваўка. То некалькі паляўнічых вярталіся з аблавы. За плячамі ў іх блішчэлі стрэльбы. Хутка паляўнічыя ўвайшлі ў калгас, дзе іх абступілі людзі з вясёлымі тварамі.

**Мік. Цэлеш.**



# За рубяжом.

*(З замежнага паляўнічага друку).*

## У БЭЛЬГІІ.

**Паляўнічыя пасьведчаньні на права паляваньня і дазволы на трыманьне агнястрэльнай зброі.**

Дазволы на права трыманьня агнястрэльнай зброі (персанальныя) выдаюцца тэрмінам на адзін год з 1-га ліпеня па 30 чэрвеня і абавязковы для ўсіх кантралюючых органаў урадавага нагляду.

Кошт дазволу—500 франкаў (каля 185 руб.), плюс накідка 20 франкаў (каля 7 р. 40 к.) у мясцовыя сродкі. Дазволы выдаюцца камісарамі абласьцей. Зацікаўленыя ў атрыманьні іх асобы, павінны даставіць у камісарыят, акрамя сваёй фотографічнай карткі яшчэ і пасьведчаньне ад камунальнай адміністрацыі, па месцы свайго жыцьця, аб сваіх паводзінах і аб жыцьці.

Паляўнічыя пасьведчаньні або білеты выдаюцца на права паляваньня тэрмінам на пяць дзён і каштуюць 125 франкаў.

У заяве аб выдачы паляўнічых білетаў паведамляюцца ўстаноўленыя, даныя у тым ліку і аб праве трыманьня паляўнічай зброі, а таксама паказаньні тых угодзьдзяў, дзе мяркуецца ўтварыць паляваньне.

Пры такіх вялікіх грашовых зборах вядома, што ні рабочаму ні наогул працоўнаму ў Бэльгіі паляваньнем займацца ня прыдзецца.

## У ШВЭЙЦАРЫІ.

**Абавязковае страхаваньне паляўнічых.**

Фэдэрацыйны швэйцарскі закон аб паляваньні 1925 г. дазваляе канторам выдаваць білеты на права паляваньня толькі тым паляўнічым, якія прад'яўляюць поліс аб сваім страхаваньні ад нясчасных выпадкаў.

Страхаваньне паляўнічых утвараецца паасобным страхавым т-вам, прызнаным дзяржаўнай уладай, пры чым мінімальная справа страхаваньня абвешчана ў 25.000 франкаў (каля 9.250 р.). Прапрацоўваючы новы закон здачы ў арэнду камунальных паляваньняў, Цюрыхскі кантон давёў мінімальныя стаўкі страхавых сум на 1 паляўнічага да 95.000 франкаў апроч грашовых гарантый, якія атрымлівае па страхоўцы паляўнічы, устанаўляецца яшчэ страхоўка страт, якія могуць быць прынесены ўгодзьдзям, як паляўнічым, так і дзічай.

Паляўнічы адказвае за ўсе страты, якія могуць быць прынесены, як ім непасрэдна, так і яго сабакамі. І тут, як і ў Бэльгіі, пры такіх падатках працоўнаму паляваньне не даступна.

## У ЛІТВЕ.

**Канец белавескіх зуброў *).**

Да часу абвяшчэньня імпэрыялістычнай вайны 1914—1917 г. колькасьць зуброў, якія жылі ў Белавескай пушчы, раўнялася 700 галовам.

Вайсковыя дзеяньні ў раёне Белавеж'я расійскіх і германскіх армій далі сыгнал к бязьлітаснаму зьнішчэньню зуброў, якія былі нават па думцы нямецкіх аўтарытэтаў „недастойным зьнішчэньнем рэдкіх у сьвеце зьвяроў“.

3 лютага 1921 г., дата, якую належыць захаваць у гісторыі белавескага зубра. Апошні зубр быў забіты былым паляўнічым вартаўніком пры царскім рэжыме Варфаламеем Шпаневічам, які можа пахваліцца, што апошнім давяршыў гэту ганебную справу.

**М. З.**

*) Гэта паведамленьне папаўняе артыкул „О зубрах“ „(Паляўнічы Беларусі“ № 3, 1930 г.).

# Рамень для здыманьня ботаў.

Замест вядомага ўсім „казла“ ці „денщика“ для ўпора бота пры здыманьні яго з нагі—добра служыць так званы амэрыканскі рамень для здыманьня ботаў.

Такі рамень бывае даўжынёю каля мэтра або трохі больш, шырынёй, прыкладна, ад $2^1/_2$ да $3^1/_2$ см., з моцнай скуры, лепш з сырамяці. Адзін канец рамня павінен быць зашыты або завязаны глухой пятлёй так, каб у яе можна было прадзець свабодны канец рамня і зрабілася-б мёртвая пятля.

Для здыманьня з нагі бота, пятлю накідваюць на бот так, каб яна праходзіла праз пад'ём на заднік бота Свабодны канец рамня павінен быць за заднікам, пятля — на задніку вышэй каблука. Свабодны канец рамня бяруць у руку, а другую нагу ставяць на рамень у пункце каля нагі, з якой здымаюць бот. Нагу вынімаюць з бота, адначасна другой нагой адштурхваючы рамень, з ім і здымаемы бот ад сабе. свабодны канец рамня ўтрымліваюць у руцэ. Здымаюць бот седзячы на чым-небудзь. Як відаць, бот здымаецца не рукамі, а нагой. Пры такім спосабе можна дапасоўваць і напружанасьць, калі такая патрабуецца для здыманьня бота; пры чым няма патрэбы моцна нагінацца, здыманьне лёгкае, бот ніколі ня можа быць папсаваны рамнём,здымаецца хутка і лёгка, нават уздзеты туга на нагу бот. Вось галоўныя перавагі рамня перад якім угодна „казлом“.

У дарозе, на паляваньні і падобных ім выпадках, калі паляўнічы адзін, а бот здымаць цяжка, апісаны рамень вельмі карысны і прыгодны. Ды і дома рамень куды практычней чыгуннага або дравянога казла, у якім, калі бот туга сходзіць з нагі, нярэдка псуецца заднік бота, перагібаецца падмётка, а пры выпадковым вырываньні бота можна пабіць нагу.

Пры карыстаньні казлом неабходна моцна згінацца, трацячы куды больш сілы, чым пры здыманьні рамнём.

Вядома, замест спэцыяльнага рамня можна прыстасаваць для гэтай мэты звычайны паясны рамень, склаўшы яго пятлёй скрозь пражку. Пражка павінна быць надзейна і бяз вострых краёў, каб не псавала бота.

Падобны рамень даўно ўжываецца для здыманьня ботаў у амэрыканскай кавалерыі.

**В. С. Маркевіч.**

**А. Загаранскі — „В поход за рыбой“, выданьне „ГИЗ“ М.—Л. 1930 г. Стар. 48, кошт—12 кап.**

Нашай краіне патрэбна рыба На долю рыбакоў выпадае адказная задача дапамагчы сваёй дзяржаве, якая будуе сацыялізм. Мэтай разьбіраемай брашуры і зьяўляецца расказаць масаваму рыбаку простымі словамі аб гэтай задачы.

Трэба заўважыць, што аўтар даволі ўдала справіўся з пастаўленай ім мэтай. Усякі, хто прачытае гэту кніжку, даволі лёгка разьбярэцца ў тых пытаньнях, якія пастаўлены ў сучасны момант урадам нашага Саюзу ў галіне рыбнае гаспадаркі. Выдана кніжка даволі здавальняюча: буйны і ясны друк. добрая папера, нявыскі кошт. Трэба пажадаць самага шырокага распаўсюджаньня гэтай брашуры сярод рыбацкіх мас Саюзу.

**І. В. Кугін—„Охрана и разведение раков в озерах и прудах“ з 17 мал. Выданьне „Сельхозгиз“ М.—Л. 1930 г. стар. 64, цана 30 кап.**

Як зусім правільна заўважыў у прадмове аўтар разглядаемай кніжкі, прыказка „на безрыбьи и рак рыба“ даўно ўжо ўстарэла. Да сусьветнай вайны 1914—1918 г.г. з Расіі вывозіліся за мяжу ні менш тысячы цэнтнэраў ракаў у год, пры чым каштоўнасьць экспарта ракаў складала да паўмільёна рублёў. Як бачымі лічба не такая ўжо малая. І гэта пры ўмовах, калі ўжо пачалося выміраньне ракаў у нашых вадаёмах у выніку заражэньня чумой. Пры правільнай арганізацыі рачной гаспадаркі, а іменна: пры ўмовах вядзеньня разумных мер аховы, штучнага разьвядзеньня ракаў і інш. мерапрыемстваў, ёсьць поўная магчымасьць паставіць і ў нас гэту справу на большую вышыню і атрымаць, такім чынам, спажыўны прадукт для ўнутранага спажываньня і зарабіць не адну сотню тысяч валюты.

Кніжка Кугіна і зьяўляецца спробай абудзіць інтарэс да рачнага промысла, а таксама дапамагчы парадамі асобам, якія займаюцца ці жадаюць займацца гэтай справай. Трохі больш паловы ўсёй кніжкі прысьвечана апісаньню нашых рачных ракаў (іх некалькі відаў), іх геаграфічнаму распаўсюджаньню ў межах Саюзу, іх жыцьцю і вельмі цікаваму і важнаму пытаньню аб чуме ракаў і яе выніках.

У другой палове кніжкі гаворыцца аб спосабах лову ракаў, аб мэтадах іх разьвядзеньня і аб мерах аховы рачнога рака.

У апошняй частцы даюцца кароткія весткі аб экспарце ракаў з даваеннай Расіі (у нязначных размерах экспарт ракаў пачаў утварацца з Саюзу толькі ў самыя апошнія гады).

Канчаецца кніжка выкладаньнем пэрспэктыў вывучэньня навукова-абгрунтаванай аховы рачных багацьцяў і пералікам літаратурных крыніц аб раках. Кніжка Кугіна зьяўляецца вельмі карыснай для ўсякага рыбака, аматара прыроды і наогул для кожнага, хто жыве і працуе каля вады.

**В. Е—паў.**

# Паляўнічая „Віктарына“.

**Пачынаючы з гэтага нумару часопісі „ПБ“, мы рэгулярна будзем зьмяшчаць у кожным нумары паляўнічую „Віктарыну“.**

**У вольны час паляўнічаму будзе чым займацца, даючы адказы на пытаньні.**

**Прозьвішчы таварышоў, якія прышлюць свой адказ на ўсе пытаньні, будзем зьмяшчаць на старонках часопісі.**

**У Віктарыну могуць пісаць усе паляўнічыя-чытачы „ПБ“.**

**Пытаньні, якія ўжо друкаваліся, зьмяшчацца ня будуць. Дасылаючы пытаньні, трэба разам з гэтым дасылаць і адказы.**

## Сэрыя № 1.

1. У якім годзе організавана паляўнічая каапэрацыя на Беларусі?
2. Хто быў ганаровым старшынёй „Всекохотсоюза“?
3. У якім годзе і дзе вышаў першы нумар часопісі „Паляўнічы Беларусі“?
4. Чаму на Беларусі забаронена паляваньне на наступных зьвяроў: бабра, лася, казу, мядзьведзя, дзіка, выдру?
5. Якія кнігі ў 1928 г. выдадзены выдавецтвам „Паляўнічы Беларусі“?
6. У якім годзе і на тэрыторыі якіх раёнаў арганізаваны беларускі дзяржаўны запрэтнік? Яго плошча?
7. Якія віды паляўнічых птах застаюцца ў нас, на Беларусі на зімоўку?
8. Куды адлятае на зімоўку наша качка?
9. Якія стаяць задачы перад паляўнічай каапэрацыяй зараз, у рэканструкцыйны пэрыяд?
10. З якога часу пачынаецца паляваньне ў гэтым годзе на вавёрку?
11. Да якога часу дазволена паляваньне на качак і цяцярукоў на Беларусі?
12. Якія птахі забаронены да адстрэлу, як карысныя для сельскай гаспадаркі?
13. У які час лепш організоўваць аблавы на ваўкоў?
14. У які час больш каштоўная хутра пушных зьвяроў?
15. Якіх на Беларусі больш сабак—гончых ці выжлаў, і якія з іх каштоўней?
16. Чаму забаронена разбураць норы лісаў і барсукоў?
17. У якіх мясцох Ленін, будучы ў ссылцы, займаўся паляваньнем?
18. Дзе на Беларусі водзіцца больш дзікаў?
19. Якіх выдатных пісьменьнікаў вы ведаеце як паляўнічых?
20. Якая паляўнічая птаха і зьвер больш за ўсё здабываюцца ў Беларусі?

# Перапіска з чытачом.

**Амосаву Н. Р.**—Вядома, перш-на-перш у сваёй каапэрацыі павінен быць задаволены таварамі пайнік, а калі тавар пайнікі ня купляюць, дык каапэрацыя мае права прадаць яго пайнікам іншых каапэрацый.

Другіх сыстэм шротавых стрэльбаў, апроч тых, якія зараз ёсьць на рынку, нашы заводы ў дастатковай колькасьці, пакуль што, не вырабляюць. Дробна калібэрныя стрэльбы прызначаны для практыкаваньня ў стральбе кулямі.

У растэрміноўку зараз ніякія тавары не адпускаюцца.

Стрэльбы-ламанкі і шампалоўкі па бою амаль ніякай розьніцы ня маюць.

Гадаваць трусоў лепш за ўсё на калектыўных пачатках паляўнічай ячэйцы. Для водпуску пляцу хай ячэйка зьвернецца ў РВК.

**Мысьліцкаму І. І.**—Выкурваць лісаў з нор ні ў які час не дазваляецца.

Рэдакцыя купляй і продажам стрэльбаў займацца ня можа.

Лавіць зайцоў да тэрміну паляваньня на іх не дазваляецца нікому. Гэтых асоб трэба прыцягваць да судовай адказнасьці па 125 арт. Крым. Код.

За няпоўна летніх дзяцей адказваюць у судзе іх бацькі ці апякуны. Трусоў заводзкіх зараз купіць вам наўрад ці ўдасца.

**Каралю В.**—Адносна заказьніка зьвярнецеся ў ваша лясьніцтва. Там дакладна вам укажуць яго межы.

**Паўловічу Х. Я.**—Правам паляваньня карыстаецца ўсякі грамадзянін, не пазбаўлены выбарчых правоў.

**Чарнаўскаму П. С.**—Адносна заказьніка зьвярнецеся ў сваё райтаварыства паляўнічых ці лясьніцтва.

**Сідарэнку І.**—Совы—карысныя птахі і зьнішчаць іх нельга. Паявы ўзнос можа ўзыскаць пры перарэгістрацыі на новы год згодна акладнага ліста.



*РЭДКАЛЕГІЯ:* **Міх. Шмідт, П. Тамашэўскі, Г. Сільнікаў.**

*АДКАЗНЫ РЭДАКТАР* **М. Шмідт.**

Цана 30 кап.

# ПАЛЯЎНІЧЫ!

КАЛІ ТЫ ХОЧАШ БЫЦЬ САПРАЎДНЫМ ПАЛЯЎНІЧЫМ, ты павінен выпісваць сваю часопіс.

ЧАСОПІС ЗНАЁМІЦЬ З ПАЛЯЎНІЧЫМ ЗАКОНАДАЎСТВАМ, тэрмінамі паляваньня, жыцьцём зьвера і птахі.

ВУЧЫЦЬ ПАЛЯЎНІЧЫЦЬ, каб НЯ ПРЫХОДЗІЦЬ З ПУСТОЙ ТОРБАЙ ДАХАТЫ.

УМЕЦЬ ДОБРА ВУДЗІЦЬ РЫБУ.

Чытаць НАРЫСЫ, ВЕРШЫ і ФЭЛЬЕТОНЫ з жыцьця паляўнічых.

ВЫПІСВАЙ часопіс „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на год 2 р., на паўгода 1 р. 20 к., на 3 мес. 70 к.

ПРАЎЛЕНЬНІ, ЯЧЭЙКІ, ПАЛЯЎНІЧЫЯ, ЛІСТАНОСЦЫ,

распаўсюджвайце часопіс „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

25.000 падпісчыкаў павінна мець часопіс у 1931 годзе.

Адрас: Менск, Савецкая, 63, К-ра Выд-ва „Беларуская Вёска“, часопіс „Паляўнічы Беларусі“.

ПРЫ МАГІЛЕЎСКІМ Т-ВЕ ПАЛЯЎНІЧЫХ

## АДЧЫНЕНА АРУЖЭЙНАЯ МАЙСТЭРНЯ

НА ЧАЛЕ З ГАЛОЎНЫМ МАЙСТРАМ А. І. ШЧЭРБА

ПРЫМАЮЦЦА Ў ПАЧЫНКУ ПАЛЯЎНІЧЫЯ РУЖЖА ЎСІХ СЫСТЭМ, А ТАКСАМА І РОЗНАЕ КАРМАННАЕ АРУЖЖА.

АДРАС: МАГІЛЕЎ, БССР,
Першамайскі прашпект, 74

Друкарня БДВ імя Сталіна. Заказ № 2814 У ліку 17.300. Галоўлітбел № 3712